**а. Леў Гарошка.**

# СЬВ. ЕЎФРАСІНЯ - ПРАДСЛАВА

## Ігуменя манастыра сьв. Спаса ў Полацку патронка Беларусі

Выданьне Беларускае Рэлігійнае Місіі

ПАРЫЖ — 1949

# УСТУП.

Каму, як каму, а беларусам у першую чаргу варта ведаць дакладней жыцьцё і дзейнасьць, аднае з найбольшых дачок свайго народу сьв. Еўфрасіні Полацкае, веліч і сьвятасьць якое мелі калісь і заўсёды будуць мець дабрадзейны ўплыў на народ, патронкаю якога яна зьяўляецца.

Нажаль да гэтага часу ў нашай рэлігійнай літаратуры, калі не рахаваць дробных зацемак у падручніках і часопісях, дык запраўды ня было ніводнае кніжкі з яе жыцьцяпісам. Запоўніць тую нястачу і ёсьць мэтаю гэтае кніжкі.

Аднак сучасныя паваенныя абставіны не дазволілі аўтару выкарыстаць упоўні ўсіх навуковых крыніцаў для поўнага апрацаваньня намечанага жыцьцяпісу, а з другога боку нават сабраны матэрыял ня мог быць упоўні выкарыстаны дзеля чыста матэрыяльных цяжкасьцяў, каб навуковым апаратам занадта не павялічваць абыйма кніжкі. Калі Бог пазволіць дачакаць лепшых часоў, тады напэўна знойдуцца магчымасьці і людзі, якія хутка гэтыя нястачы выправяць.

**Аўтар.**

# ПОЛАЧЧЫНА У XII ВЕКУ

Мала ёсьць такіх цікавых пэрыядаў у нашай гісторыі, як гісторыя Полаччыны ў 12-м веку. Восемь соцень гадоў адзьдзяляе нас ад таго веку, але карані нашае культуры, нашых звычаяў, абычаяў і нашага духовага аблічча злучаны з ім неразлучна, таму ня будзе без карысьці глянуць уважней на яго.

Пачатак XII-га веку належыць да тых нешматлікіх сьветлых мамэнтаў нашае гісторыі, калі злучаныя вакол Полацку нашы землі тварылі магутную дзяржаву пад кіраўніцтвам слаўнага Усяслава Вялікага званага Чарадзеям (1044-1101). Неспакойны пачатак княжаньня Усяслава, пасьля пераменнага шчасьця ў шматлікіх баёх і змаганьнях давёў Полаччыну да таго, што суседзі ня важыліся турбаваць «грозных палачан». У апошнія гады свайго княжаньня Усяслаў здабыў такую пашану і аўтарытэт у суседніх князёў, што аб ім адзываецца аўтар «Слова аб палку Ігараве» славамі: «Усяслаў князь людзям суды судзіў а князём гарады ўпраўляў».

Гэты спакойны пэрыяд выдатна прычыніўся да матэрыяльнага, культурнага і духовага развою Полаччыны. На гэтым мейсцы нас найбольш цікавіць тагачаснае духовае аблічча нашага краю, таму ў далейшым зьвернем на яго большую ўвагу.

Полацк, адзін з найстарэйшых гарадоў Беларусі, аб ім успамінаецца ўжо ў 862 г., у ім быў найстарэйшы япіскапскі пасад, заснаваны праўдападобна ў 992 г., або найпазьней у 1005, у ім знайходзіліся найстарэйшыя і найслаўнейшыя нашы хрысьціянскія сьвятыні, наймацнейшы цэнтр манашага жыцьця і асяродак распаўсюджваньня кніжнае асьветы і самых кнігаў. Ужо ў

XI веку Полацк быў духоваю сталіцаю нашае бацькаўшчыны, таму нічога дзіўнага, што на ўзор візантыйскае, кіяўскае і ноўгарадзкае сьв. Сафіі Усяслаў выбудаваў між 1044 і 1066 (некаторыя думаюць што пазьней) полацкую мураваную царкву сьв. Сафіі. Заваяваўшы Ноўгарад у 1066 г. Усяслаў перавёз адтуль у Полацк званы, панікадзіла ды іншую царкоўную маемасьць.

Сам Усяслаў і ўсе яго сыны азначаліся глыбокаю вераю і шчыраю пабожнасьцю. Гэтую веру, відаць, добра ведалі суседнія князі, ды часам яе подступна выкарыстоўвалі. Напрыклад пасьля бою на Нямізе ў 1067 кіяўскія Яраславічы: Ізяслаў, Сьвятаслаў, і Усевалад запрасілі Усяслава на перагаворы пад Смаленск і цалавалі крыж, што ня будуць чапаць яго і ня ўчыняць ніякага ліха. Давяраючы гэтаму крыжацалаваньню, Усяслаў разам з двумя сынамі прыйшоў у азначанае мейсца да Яраславічаў, там падасланыя імі людзі, адразу схапілі яго і адаслалі ў кіяўскі паруб. Седзячы ў парубе, Усяслаў падтрымоўваў сябе малітваю да сьв. крыжа. Хутка гэтая малітва была выслухана і ён ня толькі вызваліўся з парубу, але быў запрошаны на вялікакняжны кіяўскі пасад. Аднак любоў да роднага Полацку мацней валодала сэрцам Усяслава, чым залатакованы чужы пасад, таму й пяяў аб ім баян: «дакрануўся спісай залатога пасаду Кіяўскага, скочыў ад яго лютым зьверам а поўчаны з Белгараду, завесіўшысь сіняй імглою...» і скочыў туды, дзе яго клікаў так дарагі сэрцу звон: «яму ў Полацку рана пазванілі ў званы на завутраню ў сьвятой Сафіі, а ён (гэты) звон у Кіяве пачуў». Няўстрашны характар, няўтомная энэргія і непахісная вера Усяслава далі прычыну для ўтварэньня песень і лягэндаў навокал ягонае асобы і падказалі назоў Чарадзея.

Памёр Усяслаў ў 1101 г.; вос-жа ён толькі адзін год жыў ў XII веку, але дзяржаўнае і грамадзкае жыцьцё Поллачыны яшчэ блізка дваццаць гадоў ішло тым рэчышчам, у якое накіра-

ваў яго Усяслаў. Уміраючы ён пакінуў сямёх сыноў: Давіда, Рамана † 1116, Глеба † 1119, Барыса † 1128, Рогвалада † 1129, Сьвятаслава і Юрыя-Расьціслава, але на вялікі жаль ніадзін з гэтых сыноў ня ўдаўся ў бацька. Самае княства згодна з тагачаснымі традыцыямі падзялілася спачатку на Полацкае і Менскае, а потым яшчэ на драбнейшыя княствы: Ізяслаўскае, Друцкае, Лагожскае, Стрэжэўскае, Віцебскае і ін. Розныя дробныя непаразузмленьні між князямі даводзілі да частых закалотаў і войнаў, якія выкарыстоўвалі суседнія князі для аслабленьня Полаччыны і дзеля гэтага часта ўмысна правакавалі сваркі. Кіяўскі князь Уладзімір Манамах два разы рабіў паход супраць менскага князя Глеба Усяславіча, страшэнна апустошыў гарады і вёскі і сам хваліўся, што ў 1118 г. «по Всеславѣ пожегъ землю, идохомъ... къ Менску изъехахомъ городъ и не оставихомъ у него ни челядина ни скотины». Падчас гэтага змаганьня сам Глеб трапіў у палон і хутка (у 1119 г.) памёр у кіяўскім парубе.

Калі полацкія князі за гэткія зьнішчэньні прабавалі адпомсьціцца дык выклікалі новыя паходы. Асабліва няшчасны для полацкіх князёў быў злучаны паход кіяўскіх князёў у 1127 г., з малымі перарывамі змаганьне цягнулася да 1129 г. Пасьля двох гадоў змаганьня няведама якім чынам кіяўскаму князю Мсьціславу ўдалося захапіць полацкіх князёў Давіда, Расьціслава і Сьвятаслава разам з іхнымі жонкамі і дзецьмі, ды саслаць іх у Царгарод на службу візантыйскаму імпэратару Івану Камнэну, а ў Полацку пасадзіць свайго сына Ізяслава, а потым Сьвятаполка, але княжаньне гэтых князёў хутка выклікала агульнае незадаваленьне і бунт, у выніку якога выгналі Сьвятаполка, а полацкі пасад заняў унук Усяслава Васілько Сьвятаславіч (1132-1143). Пасьля ягонага спакойнага й мудрага княжаньня полацкі пасад пераходзіць яго дваюраднаму брату Рогваладу III Барысавічу, які не заўсёды мог дагадзіць палачанам і загэтым на некаторы час яго былі выгналі ў Менск, заклікаючы

адтуль да сябе Расьціслава Глебавіча (1151-1158), але потым зноў вярнулі Рогвалада (1158-1161). Па ягонай сьмерці полацкі пасад пераходзіць у рукі васількавага сына Усяслава III (1161-1170). Спакойны час княжаньня Усяслава Васількавіча, як і ягонага бацькі меў той насьледак, што пасьля ягонае сьмерці палачане замест князя паклікалі «раду старэйшых». Гэты час, празваны «Полацкаю рэспублікаю» (1171-1180), прынёс толькі нутраных закалотаў, што хутка веча зноў паклікала да сябе князя ўсяславіча Уладзімера Валадаравіча (1180-1217).

Канец XII в. характэрны вялікім раздрабленьнем на незалежныя княствы. Цікава аднак зацеміць, што ў меру драбленьня княстваў што раз больш адчувалася патрэба аднаго кіруючага цэнтру. Маральным цэнтрам і далей аставаўся Полацк, не зважаючы на сваё аслабленьне. Нават прыбалтыйскія землі з небеларускім насельніцтвам былі залежныя ад Полацку. Праўда гэтая залежнасьць была мінімальная. Толькі ўздоўж Дзьвіны полацкія князі стараліся ўмацаваць сваю ўладу, закладаючы там свае калёніі (Гэрцыкэ і Кукэйнос) у якіх уладу выконвалі адпаручныя князі.

Частыя войны і нават паважныя зьнішчэньні не перашкодзілі Полацку стацца ў XII в. вялікім вогнішчам культурнага жыцьця. Гандлёвыя зносіны лучылі яго з суседнімі і заморскімі краінамі, а тым самым вельмі прычыняліся да ўзбагачаньня так самога гораду, як і ўсяе краіны. Пры гэтам аднак не абыйшлося без адмоўных праяваў. Хутка вытварылася купецкая гілда, якая справы свае кішэні ставіла па-над усё. Міма свае волі купецтва і багацьцё Полацку прывабіла ў суседзтва нямецкіх купцоў да вусьця Дзьвіны, дзе яны каля 1180 г. залажылі горад Ікскуль і сваю калёнію. На вечах полацкія купцы так-жа няраз выклікалі закалоты і падбухторвалі насельніцтва супраць князя, кіруючыся нізкімі матывамі асабістае нажывы. Гісторыкі дагадваюцца, што гэта купцы былі ўтварылі «Полацкую рэспублі-

ку», але ўтрымаць яе не змаглі, выклікаўшы агульнае незадаваленьне.

Маючы на ўвеце вышэйпералічаныя факты частых войнаў, княжых непаразуменьняў і дробнасуседзкіх закалотаў, купецкі засьлеплены гон да нажывы і прыняўшы пад увагу маласьведамасьць масаў, глыбоказакарэненыя паганскія звычаі й абычаі, а так-жа й іншыя факты; калі-б паставіць пытаньне: які-ж дзейнік прычыніўся да культурнага ўздыму краю і народу? Бяз сумніву трэба адказаць, што гэтым дзейнікам была Царква. Яна мусіла прарабіць вялікую працу ў гэтай галіне, перамагчы вялікія перашкоды. Адначасна з евангельскім сьветам ішла граматнасьць і пісьменнасьць. Асьвета прынесеная на Беларусь разам з хрысьціянствам пачынаючы з гарадоў пранікала ў штораз шырэйшыя кругі грамадзтва. Дзе асноўваліся цэрквы — зьяўляліся кнігі. Пры царкве сьв. Сафіі ў Полацку паўстала цэлая бібліятэка ў XII в. Патрэба пісанага слова адчувалася ўсюды штораз мацней. У Полацку, а так-жа і ў іншых гарадох множыліся манастыры у якіх даўней жылі амаль адзіныя фаховыя перапішчыкі-манахі. На пачатку XI в. успамінаецца толькі адзін манастыр у Полацку, але да XIV в. іх налічвалося ўжо 14. Даты іх паўстаньня ў бальшыні няведамыя, але шмат з іх было заложана ў XII веку, як гэта можна бачыць з ніжэйпаданага сьпіску. 1) Барысаглебскі, або Бельчыцкі за Дзьвіною ад 1160 г. — пры ім была мураваная Пятніцкая капліца, 2) Багародзіцкі за горадам аснаваны каля 1150 г. — сёньня няма і сьледу, 3) Багаяўленскі ў горадзе над Дзьвіною — быў да сусьветнае вайны, 4) Вазьнясенскі — ўспамінаецца ў 1553 г., 5) Васкрасенскі ў ніжнім замку (Мюнцы), аснаваны князем Юрыям — сёньня няма і сьледу, 6) Горадзецкі Міхайлаўскі за Палотаю — быў да сусьветнае вайны, 7) Кузьма-Дзямянскі за Палотою — няма і сьледу, 8) Мікалаяўскі на рацэ Лучне аснаваны ў XIII в., 9) Прадцечанскі на Дзьвінскім абтоку — быў да XIV в., 10) Прэабраженскі або Запалоцкі — ня-

ма і сьледу, 11) Пятніцкі за Дзьвіною на рацэ Бельчыцы, 12) Спаса-Еўфрасініскі (жаночы) аснаваны перад 1129 г. — быў да сусьветнае вайны, 13) Троіцкі за Палотаю спалены ў 1579 г., 14) Юр'еўскі ў полі ўспамінаецца ў 1582 г. Бяз ніякіх паясьненьняў сам гэты сьпіс можа служыць вымоўным доказам рэлігійнага ўздыму даўнейшай Полаччыны.

Варта заўважыць, што між назовамі тагачасных кнігаў кідаецца ў вочы параўнаўча вялікая колькасьць жыціяў сьвятых і зборнікаў выказаў сьвятых і філязофаў, трэба думаць, што гэткімі кнігамі цікавіліся ня толькі перапішчыкі-манахі, але й чытачы з іншых кругоў грамадзтва.

Вымоўным паказчыкам духовага узроўню тагачаснае Полаччыны ёсьць факт, што сьвецкія людзі пайшлі за прыкладам манахаў і заснавалі ў Полацку дзесь перад 1158 г. першую ў гісторы ўсходніх славянаў «братчыну», якая сталася першаўзорам для пазьнейшых брацтваў шырока распаўсюджаных на Беларусі і ў суседніх народаў. Відаць, што хрысьціянскія асновы паволі ўвайходзілі ў практычнае штодзеннае жыцьцё. Нажаль мала ёсьць вестак аб гэтым жыцьці ў летапісях, але аб гэтым даслоўна голасна галосяць каменьні.

У цяжкіх для княства хвілінах полацкія князі і самі шукалі падтрыманьня ў малітве, і народ да гэтага заахвочвалі. Часта свае малітоўныя заклікі яны высякалі на каменьнях, каб кожнаму падарожнаму прыпомніць аб гэтай просьбе. Найбольш такіх памятак пакінуў па сабе Барыс Ўсяславіч і яго сын Рогвалад, таму часта гэтыя каляні называюць Барысавымі. Некаторыя з іх загінулі бясьсьледна, іншыя былі зьнішчаны нядаўна. Да сёньняшняга дня ёсьць весткі аб адзінаццаці такіх камянёх, з якіх 6 уласьціва Барысавых, рэшта — іншых князёў. Знаходзяцца яны выключна на абшары калішняга Полацкага княства. Першы Барысаў камень знайходзіўся ў рэчышчы Дзьвіны 5 км. ад Полацку, 2-і так-жа у Дзьвіне 5 км. ніжэй Дзісны, 3-і ўсяго 2 км., ніжэй ад другога, 4-ы у вёсцы Высокі Гарадзец Магі-

лёўскае акругі, дня 14-VII-1937 яго бальшавікі ўзарвалі, 5-ы ў Друі на беразе Дзьвіны, 6-ы ў вёсцы Каменка Вялейскага пав., 7-ы Рагвалодаў камень з датаю 1171 г. між Оршаю і Кохававам, 8-ы камень званы «Сулібо̀рь хрьст» быў знойдзены ля трэцяга Барысавага каменя ў Дзьвіне і перавезены ў Маскву ў 1879 г., 9-ы камень «Сьвягаполк-Аляксандар» у Дзьвіне ля мястэчка Краслаўка ўзарваны ў 1818 г., 10-ы Вілюйскі камень — зьнішчаны ў 19 ст., 11-ы «Барысаглебскі» камень ля Нараўскіх порогаў у Дзьвіне быў узарваны ў 1818 г. Акрамя вышэйпералічаных камянёў з напісамі было шмат камянёў толькі з крыжамі. Варта асаблівае ўвагі, што на ўсіх камянёх паўтараецца той самы малітоўны кліч: «Госпадзі памазі рабу сваему...» (далей ідзе імя: Барысу, ці Рогваладу). Гэткі самы напіс шырока ўжываўся ў тагачаснай Візантыі на манэтах, пячатках, мэдаліёнах і пад. Магчыма, што яго перанялі полацкія князі вярнуўшыся з Візантыі, але карысталіся ім на свой лад.



Крыж на ўсіх камянёх мае тую самую форму; гэта той самы крыж на ўзор якога Лазар Богуш у 1161 г. зрабіў славуты крыж для сьв. Еўфрасініі, а схэма гэтага крыжа знайходзіцца на шчыце ў рыцара Пагоні. Магчыма, што да гэткага крыжа маліўся Усяслаў Вялікі седзячы ў парубе. Ці не прадчувалі князі, што цяжкі крыж чачае бацькаўшчыну, калі з такою пабожнасьцю да яго зьвярталіся?

Палачане ў XII веку ня толькі ўмелі перапісваць кнігі, яны ўмелі іх самі ўкладаць, мелі нямала дойлідаў, якія ўмацоўвалі мурамі гарады і ўпрыгожвалі іх велічнымі сьвятынямі; пайменна ведамы ў XII веку толькі дойлід Іван. Мелі нават такіх майстроў якія апанавалі верх тагачаснага візантыйскага мастацтва; адным з гэткіх майстроў быў Лараз Богуш.

Усе гэтыя факты змушалі нават няпрыхільных для нас гісторыкаў прызнаць, што тагачасная

Полаччына стаяла на высокай ступені культурнага разьвіцьця.

Няма найменшага сумніву, што узрост культуры і пашырэньне асьветы было ў найцясьнейшым зьвязку з пашырэньнем хрысьціянства і пераважна знаходзілася ў руках духавенства, але гісторыя нам не захавала імёнаў гэтых духоўных працаўнікоў. Нават з тагачасных полацкіх япіскапаў ведама толькі некалькі імёнаў: Міна (1105-1116), Ільля (1120-1129), Козма грэк (1143-1156), Діонізій (1167-1182), Нікалай грэчын (1183- ), Кальліст, Уладзімір каля 1218. Гэта імёны і толькі імёны, аб іхняй дзейнасьці захавалася толькі некалькі дробных вестак.

У адмену ад дзяржаўных закалотаў, рэлігійнае жыцьцё Полаччыны прайходзіла ціха і спакойна. Вышэй пераліччаліся тыя дзялянкі жыцьця на якіх меў уплыў духовы рост нядаўна пасеенага зернятка хрысьціянства, тут варта падчыркнуць, што ў XII в. гэтае зернятка ня толькі бойна разраслося, але пачало расьцьвітаць прыгожымі кветкамі. Найбольшаю з іх ёсьць сьв. Прадслава-Еўфрасіня заснавальніца і першая ігуменьня Спасавага манастыра. Яна запраўдная дочка Беларусі XII в. У яе асобе адлюстроўваецца і веліч і цярпеньне роднага краю. Яе дзейнасьць у Полацку пакінула па сабе нязьнішчальны сьлед.

## ЖЫЦЬЦЯПІС СЬВ. ЕЎФРАСІНІ-ПРАДСЛАВЫ.

На жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні ўжо хоць-бы таму варта зьвярнуць увагу, што ён мае ня менш цікавую гісторыю, як і самае жыцьцё сьвятое. Да таго ў беларускай гістарычнай літаратуры дзякуючы няяснай зацемцы В. Ласоўскага ў «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» аб гэтым жыцьцяпісе, можа паўстаць памылковае паняцьце, быццам недзе ёсьць жыцьцяпіс сьвятое з XII веку. Ён піша так: «Жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні кн. Полацкае напісаны мніхам Спаскага манастыра ў Полацку для ігумені таго-ж манастыра, што можна бачыць са слоў жыцьцяпісу: «Игуменьи монастыря сьвятога Спаса и Пречистыя Его Матере, иже во Полотсцѣ градѣ... (Рукапісны зборнік XVI ст. Троіцкае Лаўры)... Жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні мае ў сабе шмат цікавых гістарычных даных датычна Полацка і духоўнага тагачаснага жыцьця ў ім, што паказуе на чыста мяйсцовае паходжаньне аўтара. Жыцьцяпіс гэты быў напісаны не пазьней канца XII ст.».

Тымчасам рэч маецца крыху інакш. Запраўды мусіў быць жыцьцяпіс сьвятое Еўфрасіні з канца XII веку, але ён да нас не дайшоў, прынамся да цяпер яго не знайшлі, але дайшлі розныя яго перапрацоўкі. Што да аўтарства таго першапачатнага жыцьцяпісу дагадка В. Ластоўскага так-жа ня зусім згодна з праўдаю, бо манастыр сьв. Спаса быў жаночым манастыром, ігуменьнямі ў ім былі манашкі, якія падлягалі беспасрэдна біскупу, але ў суседзтве быў мужчынскі манастыр Багародзіцы, дык праўдападобна, што аўтарам мог быць ігумен гэтага манастыра, які відаць мусіў добра ведаць брата сьв. Еўфрасіні, ад якога даведаўся аб паломніцтве і сьмерці сьвятое.

Справаю гэтага жыцьцяпісу займалася ўжо

нямала гісторыкаў і пакуль няма новых даных, ані нават магчымасьці скантраляваць усе пазьнейшыя рукапісы, прыходзіцца карыстацца тымі найбольш праўдападобнымі выснаўкамі, да якіх яны дайшлі.

Голубінскій у «Исторіи Русской Церкви» (стр. 771-772) адносна цікавячага нас пытаньня заяўляе: «З усёю праўдападобнасьцю жыцьцяпіс прэпадобнае Еўфрасіні Полацкае... трэба аднесьці да перадмангольскага пэрыяду... Літаратурная апрацоўка жыцьцяпісу, у тым выглядзе, як ён нам ведамы цяпер, належыць да пазьнейшага часу, але зьместам, сваімі фактычнымі данымі, гэта значыць сваімі весткамі, дае магчымасьць бачыць у ягоным аўтару беспасрэднага, або прынамся вельмі блізкага сучасьніка сьвятое. Аб літаратурнай вартасьці жыцьцяпісу, мы нічога ня можам сказаць дзеля ўспомненае прычыны (г. знач. таму, што цяперашняя літаратурная апрацоўка ёсьць пазьнейшая). Датычна зьместу, дык у гэтых адносінах жыцьцяпіс даволі поўны, апавядае аб жыцьці Еўфрасіні ў бесперарыўнай пасьлядоўнасьці і здаецца ня мае важнейшых пропускаў».

Да гэтага трэба заўважыць, што пазьнейшая апрацоўка была не адна. Ведамы гісторык Сапуноў нарахаваў іх тры, але колькасьць рукапісаў, у якіх гэтыя пераапрацоўкі знайходзяцца, сягае дваццаці. Галаўнейшыя з іх дакладна пералічае Барсуков ў сваім творы «Источники русской агіографіи». Ён-жа падае амаль даслоўна думку Ключэўскага да часу, калі магла стацца тая пераапрацоўка. «Жыцьцяпіс прэп. Еўфрсіні паводля свайаго складу і літаратурнаму характару прыпамінае рэтарычныя жыцьцяпісы XV і XVI в., але жывасьцю і багацьцем біяграфічных рысаў, разам з рэшткамі стараветнае мовы змушаюць дагадвацца ў біяграфа нейкую больш старую крыніцу». Арх. Філарэт уважаў, што першапачатны жыцьцяпіс паўстаў каля 1200 г. асноўваючы свой здогад на тым, што ў уніяцкім манастыры а.а. Базыльянаў у Львове меў быць нейкі стары

рукапіс з жыцьцяпісам сьв. Еўфрасіні з XIV в. Аднак ані сам арх. Філарэт, ані ягоныя аднадумнікі ня праўджвалі дакладна гэнага рукапісу. Тымбольш гэта цяжка зрабіць цяпер.

Факт адсутнасьці першапачатнага жыцьцяпісу значна абцяжвае досьледы жыцьця сьв. Еўфрасіні, а другі факт ня менш сумны, што нават і тыя рукапісы з пераапрацаваным жыцьцяпісам усе ёсьць небеларускага (расейскага) паходжаньня. Гэта выглядае на паважную ненармальнасьць, бо самыя-ж расейскія гісторыкі сьцьвярджаюць, што: «Да мітрапаліта Макарыя (1542-1563) жыцьцяпіс Еўфрасіні ня сустракаецца ў рукапісах (на абшары Расеі) праўдападобна дзеля таго, што для Маскоўскае Русі ... Еўфрасіня была так-бы сказаць чужая. Мітрапаліт Макарый умясьціў жыцьцяпіс у сваіх Чэтьі-Мінэях (пад 23-V) і можна думаць, што падчас гэтага жыцьцяпіс атрымаў сваю цяперашнюю літаратурную апрацоўку» (Голубінскій — Исторіи Русск. Церкви т. I с. 772).

Чаму так сталася, найлепш выяўляе Е. В. Барсоў у «Описаніи великих Четых-Миней митр. Макарія...» (гл. Чтенія в Императорском Обществѣ, Исторіи ... Москва 1884). Адтуль даведваемся, што мітр. Макарій быў захоплены навасьпечанаю тэорыяю аб Маскве «трэцім Рыме». Ён бачыў, што «вонкавае аб'еднаньне дзяржавы ўжо сталася, але не ставала нутранага аб'еднаньня, без якога вонкавае вельмі нятрыўкае. Такім вялікім зьбіральнікам акруговых Цэркваў у адзіную Усерасейскую Царкву, такім маральным злучнікам мяйсцовых інтарэсаў у адзінстве царкоўнага духу і звычаю зьяўляецца ў XVI в. Макарій мітрапаліт Маскоўскі і ўсяе Русі». Адпаведна да гэтае мэты была абрана сыстэма зьбіраньня жыцьцяпісаў немаскоўскіх сьвятых. Сам мітр. Макарый, паводля сьведчаньня тако-ж Барсова «ня толькі загадваў сьпісваць жыцьцяпісы і другія кнігі, але так-жа стараўся ачышчаць мову ад іншамоўных выславаў— (Успомн. твор. стр. 1).

І запраўды праступыяваўшы жыцьцяпіс сьв.

Еўфрасіні Полацкае ў апрацоўцы мітр. Макарыя, прыходзіцца прыйсьці да перакананьня, што гэтая моўная апрацоўка раўназначна поўнаму перакладу на тагачасную расейскую царкоўна-славяншчыну. Ад першапачатнае мовы асталіся толькі жалюгодныя рэшткі. Аднак самыя біяграфічныя факты, жывасьць апавяданьня, дух тагачаснае эпохі веюць такою праўдамоўнасцью, што ўсе гісторыкі згодна прымаюць гэты жыцьцяпіс за паважны гістарычны дакумант. Дасьледнік расейскае гагіяграфіі Г. Федотов зьвярнуў увагу, што спаміж «рускіх» сьвятых жанчын «адзіная сьв. Еўфрасіня Полацкая выступае ў сваім жыцьцяпісе з азначанымі рысамі характару, прэдстаўляючы яе, як нязвычайную па сіле характару і асьвечанасьці царкоўную дзеячку». І гэта запраўды так ёсьць.

Нічога тады дзіўнага, што беларуская сьвятая з гэткімі рысамі характару трапіла ня толькі ў Четьі-Мінэі мітр. Макарыя, але і ў «Книгу Степенную царского родословія». Сам назоў Кнігі сведчыць аб яе прызначэньні. Іронія лёсу! Сьвятая князёўна грозных Палачан, якая ўсё жыцьцё ахвяравала для асьвечаньня і асьвячаньня бацькаўшчыны, мела стацца козырам у чужых захопніцкіх руках для духовага паняволеньня краю. Праўды стварыць нейкую сувязь між жыцьцяпісам сьв. Еўфрасіні і агульным зьместам «Книги Степенной царского родословія» ніяк не ўдалося. Гэты факт даўно заўважылі дасьледнікі гэнае «Кнігі» і стараліся якім колечы спосабам навязаць бракуючую сувязь. Пл. Васенко ў сваім апісаньні «Кнігі Степенной» так піша: «Сувязьзю ...між апавяданьнямі ў «Степенной»„ былі хронолёгічныя выпадкі, блізіня ў часе апавяданых у іх падзеяў. І запраўды, якія іншыя адносіны маглі мець напр. апавяданьні аб Еўфрасіні Полацкай, ці цярпеньні вял. кн. Рамана Ольговіча ў ардзе за веру Хрыстову, да жыцьця і дзейнасьці Юрыя Доўгарукага і Даніла Маскоўскага, ў гранях якіх сустракаюцца названыя апавяданьні?»

У сувязі з вышэйсказаным само напрошваец-



2

ца пытаньне, як агулам так магло стацца, што беларусы дазволілі расейцам спэкуляваць іменем сваё сьвятое? Каб на гэта адказаць, трэба ведаць, што XVI в., калі расейцы пераапрацавалі жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні і пачалі ім карыстацца для сваіх вялікадзяржаўных мэтаў, быў агулам у іх характэрны рознымі перайманьнямі. Тады дзеяліся шмат горшыя рэчы. Вялікія Маскоўскія князі прысволі сабе візантыйскі гэрб і царскі тытул, да якога дадавалі «Вялікае, Малое і Белае Русі Самодзержавец». Беларускія, ці як іх тады звалі літоўскія, Вялікія Князі пратэставалі супраць такога прысвойваньня, але дарэмна.

Аднак даволі дзіўнае зьявішча, калі на Беларусі запанавала рэлігійная вунія, расейцы ўстрымаліся ад спэкуляцыі іменем сьв. Еўфрасіні. Тады толькі растоўскі яп. Дзімітры Туптало пераапрацаваў жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні і надрукаваў у сваіх Четьі-Мінэях. Але ён як украінец і вучань Магілянскае Акадэміі ў шмат чым розьніўся ад расейскага рэлігійнага напрамку і тэндэнцыяў.

Паколькі на Беларусі ў часе вуніі быў пашыраны жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні цяжка сказаць, бо тагачасная беларуская рэлігійная літаратура пераважна зьнішчана падчас паленьня кніг на Беларусі, якое асабліва жарстока праводзілася пасьля далучэньня Беларусі да Расеі, і потым пасьля скасаваньня вуніі. Праўдападобна толькі ў базыльянскім уніяцкім манастыры ў Львове быў захаваўся рукапіс у якім між іншым ёсьць бадай ці не найстаршы ведамы датэтуль жыцьцяпіс сьвятое Еўфрасіні. Аб гэтым рукапісу знайходзіцца толькі кароткая зацемка Срезневского ў «Журналѣ Министерства Народн. Просв.» за люты 1863 г. с, 60, адкуль даведваемся, што ў тым манастыры ёсьць «Пергаментны рукапіс вял. 8, даволі старынны, бадай што з XIV в. зрэштаю вельмі папсаваны; няма ў ім ні пачатку ні канца і ў сярэдзіне вырвана шмат лістоў. Вось загалоўкі артыкулаў зьмешчаных у ім: «Житиіе и хожѣниіе стыіа Іэоуфросиня...» Далей ідуць жыцьцяпісы

чатырох іншых сьвятых. Больш дакладных вестак аб гэтым рукапісе не ўдалося знайсьці.

Пасьля скасаваньня вуніі ў расейскай рэлігійнай літаратуры зьявіліся розныя брашуры і большыя артыкулы аб сьв. Еўфрасіні, якія ў асноўным паўтаралі або шыршы жыцьцяпіс з Четьі-Мінэяў мітр. Макарыя, або каротшы яп. Дзімітрыя Тупталы. Аднак найбольшая праца аб сьв. Еўфрасіні, якая зьявілася да гэтага часу паходзіць з каталіцкага асяродзьдзя. Гэта ёсьць ведамы твор у польскай мове: «Dwa wielkie swiatla na horyzoncie Polockim», напісаны Базыльянінам а. Ігнатам Стэбэльскім.

Агулам аб сьв. Еўфрасіні існуе даволі вялікая бібліяграфія. Калі парахаваць усе кнігі, брашуры, рукапісы ў якіх сустракаюцца весткі аб яе жыцьці і дзейнасьці, дык назьбіраецца каля 110 назоваў у мовах: беларускай, лацінскай, нямецкай, польскай, расейскай, украінскай і царкоўна-славянскай. У сучасны мамэнт некаторыя з гэтых твораў нават немагчыма адшукаць.

## СЬВ. ЕЎФРАСІНЯ Ў БАЦЬКАЎСКІМ ДОМЕ.

Еўфрасіня гэта манашае імя Прадславы дочкі Юрыя Усяславіча. Аб бацькох Прадславы ведама ня шмат. Бацька яе, Юрый, быў малодшым сынам Усяслава II Брачыславіча. Штопраўда летапісы не ўспамінаюць між сынамі Усяслава II такога імені (Юрыя), але гэта было хрэснае імя або Сьвятаслава, або Расьціслава Усяславічаў. Да сёньня няма згоды між дасьледнікамі, каторы з іх мог мець імя Юрыя, бо доля іх амаль падобная, а вестак аб жыцьці і дзейнасьці дайшло замала, каб можна было вырашыць гэтае пытаньне. Маці Прадславы паходзіла з роду візантыйскіх імпэратараў Комнэнаў. Магчыма нават, што была роднаю сястрою імпэратара Мануіла (1143-1180). Гэтае спародненьне Прадслава потым ня раз змагла выкарыстаць для свае рэлігійнае дзейнасьці. Па бацьку ў жылах Прадславы цякла кроў Рогвалада, Рагнеды, Ізяслава, Брачыслава і Усяслава Вялікага (Чарадзея). Характар яе дзіўна прыпамінае энэргічны і дзейны характар яе дзеда Усяслава.

На сьвет прыйшла Прадслава праўдападобна некалькі гадоў пасьля сьмерці свайго дзеда. Дакладную дату нараджэньня ўстанавіць нельга, але з таго факту, што яна дванаццацігадоваю ўступіла ў манастыр, дзе ігуменьню была яе цётка, удава па Рамане Усяславічу, які памёр у 1116 г., дату нараджэньня трэба прыняць не раней 1104 г. і магчыма не пазьней 1106 г., бо ўжо перад 1128 г. Прадслава сталася ігуменьню новазаснаванага манастыра ў Сяльцы.

У Прадславы былі яшчэ браты: Вячко (магчыма старэйшы) і малодшы Давід і малодшая сястра Градзіслава. Звычайна паводле тагачасных практык імёны дзецям даваліся зразу пась-

ля народжаньня, а ў часе хрышчэньня іх нараз мянялі, як гэта было з бацькам і дзядзькамі Прадславы, але яна сама, яе браты і сястра захавалі свае першапачатныя імёны і ў хрышчэньні.

Відаць, што з малку год Прадслава вырозьнівалася сваімі здольнасьцямі і характарам. Яна ўжо з раньніх гадоў навучылася грамаце, тады калі у той час агулам граматнасьць была прывілеям нешматлікіх духоўных і князёў.

Настаўнікамі даўней былі амаль выключна духоўныя особы і перадусім манахі. Падручнікамі былі кнігі рэлігійнага зьместу — Сьвятое Пісаньне, жыцьці сьвятых і пад. Першымі школамі былі манастыры, але князі не заўсёды пасылалі сваіх дзяцей ў манастыр на навуку, яны часта запрашалі манахаў да сябе і вучылі дзяцей дома. Ці Прадслава хадзіла вучыцца ў манастыр, ці вучылся дома, у жыцьцяпісах не ўспамінаецца. Аднак ёсьць пэўна, што яна аднасчасна з навукай пазнала і манастырскае жыцьцё. Тут варта заўважыць вельмі характэрнае зьявішча адносна стараветных звычаяў нашых продкаў. Калі ў іншых краінах жанчыны доўгія стагодзьдзі аж да XIX в. мусілі змагацца за свае правы да асьветы, дык у нас ужо ў XII в. жанчыны здабываюць асьвету нароўні з мужчынамі.

Сваімі посьпехамі ў навуцы Прадслава зьдзівіла нават сваіх настаўнікаў і бацькоў. У жыцьцяпісе кажацца з асаблівым націскам, што: «дзівіўся бацька аб яе такой любові да навукі». Яна любіла шмат чытаць і гэта было яе найбольшаю школаю і прычынілася да нязвычайнага для яе веку ўмысловага развою. Да таго яшчэ Прадслава азначалася нязвычайнаю вонкаваю красою, аб якой аднагодна сьведчаць жыцьцяпісы. Таму нічога дзіўнага, што вестка аб мудрай і прыгожай полацкай князёўне расходзілася шырока па-за межы роднага краю.

Да маладое і нязвычайнае князёўны суседнія князі пачалі прысылаць сватоў. Паводля тагачасных звычаяў у Заходняй Эўропе бацькі нараз заручалі сваіх дзяцей у раньнім дзяцінстве. Ра-

сейскія летапісы так-жа ведаюць выпадкі, калі выдавалі замуж 8-і гадовых і жанілі 11-і гадовых. Нашы продкі мелі звычай, паводля якога раней 12-і год нельга было выдаваць замуж. Гэты звычай потым прыняўся і ў суседніх княствах. Відаць на аснове гэтага звычаю мітр. Фоцій у XV в. афіцыяльна забараніў ноўгарадцам даваць шлюбы дзяўчатам малодшым за 12 год. Трымаючыся гэтага звычаю бацькі Прадславы, першых сватоў адпраўлялі з нічым. Але калі Прадславе споўнілася 12 год, бацькі парадзіўшыся з сабою пастанавілі выдаць дачку замуж за нейкага багатага князевіча.

Ужо падчас першых спробаў сватаўства Прадслава адкідала думку аб сужэнстве, аднак бацькі яе, відаць, ня прымалі гэтае адмовы паважна. Калі-ж бацька абʼявіў Прадславе сваю пастанову, выдаць яе замуж, дык Прадслава нічога ня кажучы бацьком, пастанавіла ўцячы тайком ад сужэнства ў манастыр. У гэтай пастанове маладое князёўны можна дабачыць уплыў распаўсюджанага калісьці ў нас жыцьцяпісу сьв. Аляксея чалавека Божага, які ўцёк здому ад сужонкі адразу пасьля шлюбу, а магчыма так-жа сьв. Агнешкі. (Абодва рымскія сьвятыя). Асабліва 12-ігодняя Агнешка дачка рымскага патрыцыя надзвычайна падобная да Прадславы і ў гадох і ў становішчы і ў пастанове ня мець іншага жаніха акрамя Хрыста.

Сваю пастанову Прадслава выконвае неадкладна; яна кідае ўсё: багацьце, родны дом, абяцаныя почасьці і славу, кідае бацькоў, адно толькі хоча захаваць сваю пастанову — ахвяраваць усё сваё жыцьцё для Хрыста, быць Яму вернай у найвышэйшай ступені самаахвярнасьці. Яна ўцякае ў манастыр, дзе яе цётка, удава князя Рамана Усяславіча, была ігуменяю. Магчыма, што гэта нават ня быў запраўдны манастыр, толькі так званая манашая слабодка пры нейкай парахіяльнай царкве ў Полацку, дзе пражывала ўдава Рамана з некалькімі манашкамі.

Гэтыя ўцёкі маглі стацца пасьля 1117 г., бо

Раман Усяславіч памёр у 1116 г. і толькі пасьля гэтага ягоная жонка магла пайсьці ў манастыр. Ігуменя доўга не загаджалася прыняць Прадславу, адмаўляючы яе ўсімі спосабамі; паклікаючыся на яе маладосьць, гожасьць, суровасьць манастырскага жыцьця, але Прадслава тут паказалася запраўднай унукай Усяслава Вялікага. На адмовы ігумені, Прадслава казала, што яе нічога дачаснае ў сьвеце ня вабіць, бо яно хутка мінае і краса хутка вяне, як веснавы цьвет. І на доказ таго, што яна больш ня хоча глядзець на пакінуты сьвет, Прадслава ўпала перад ігуменяй абліччам да зямлі і не хацела падняцца, аж пакуль ігуменя не здаволіць яе просьбы. Тая бачучы вялікую любоў Прадславы да Хрыста і непахіснае жаданьне служыць Яму, і яе паводзіны, была вельмі расчулена, але памятаючы, што мае дачыненьні з найбольш любай дачкой полацкага князя, азвалася да яе: «Дзіця маё, як я магу выканаць тваю просьбу, калі за гэта твой бацька будзе гневацца на мяне і гнеў яго зваліцца на маю галаву». На гэта Прадслава адказала: «Ня бойся, валадарка і маці мая, майго бацькі, а бойся Бога».

Пасьля гэткага адказу ігуменя згадзілася прыняць Прадславу ў манастыр і, заклікаўшы сьвятара, загадала пастрыгчы яе ў манашкі. У пастрыжэньні Прадслава атрымала імя Еўфрасіня, атрымала чорную манашую вопратку. Ад гэтага мамэнту Прадслава ўмерла для дачаснага сьвету, а нарадзілася Еўфрасіня для духовае працы для роднага краю, замкнуўшыся ў цеснай манашай келіі.

## СЬВ. ЕЎФРАСІНЯ Ў МАНАСТЫРЫ.

### Першыя крокі.

Нялёгкае жыцьцё чакала Еўфрасіню ў манастыры. Відаць, што ігуменя Раманава зьменьваючы ёй імя, мела на ўвеце гэтыя цяжкасьці, калі выбрала ёй у патронку сьв. Еўфрасіню Александрыйскую, дочку Пафнуція, якая так-жа ўцякла ад замуства і пераапрануўшыся за мужчыну, уступіла ў мужчынскі манастыр, дзе і жыла непазнанаю аж да сьмерці 25-IX-401 г.

Так і для нашае Еўфрасіні ня вонкавыя цяжкасьці, але нутранае самаапанаваньне мусіла стацца штодзённым шляхам поступу ў дасканаласьці і цнотах ад першых дзён яе манастырскага жыцьця і аж да апошняга.

Трэба думаць, што ўцёкі Прадславы бацькі мусілі заўважыць адразу і адразу пачалі яе шукаць. Напэўна шукалі нядоўга, бо магчыма нават сама ігуменя паведаміла князя, што ягоная любая дачка цяпер у манастыры пад яе апекаю. Можна сабе лёгка ўявіць, як сумеліся бацька і маці, даведаўшыся, куды зьнікла іх любая Прадслава, з асобаю, якое яны зьвязвалі толькі прыгожых, на іх думку, праектаў. Ня дзіва дзеля гэтага, што ў іх сэрцах зьявіўся немалы жаль. І з гэтым жалем яны неадкладна сьпяшаюцца ў манастыр, а там гэты жаль мусіў яшчэ пабольшыцца, калі замест свае Прадславы пабачылі ўжо чарніцу Еўфрасіню. Жыцьцяпіс апавядае, што бацька з жалю рваў валасы на галаве, а маці галасіла наўзрыд, як па пакойніцы. Гэта была першая цяжкая проба для Еўфрасіні на новым жыцьцёвым шляху. Яна з гэройскім супакоем суняла горкія сьлёзы маці і супакоіла бацьку. Яна просіць бацькоў ня сумаваць, а радавацца таму,

што іхняя дачка аддалася нябеснаму Валадару. Не прамінаючае дачаснае і вузкаасабістае шчасьце спадзяецца асягнуць Еўфрасіня, але вечнае і на гэтым шляху быць памоцнай для шматлікіх. Колькі мусіла быць жару любові і пераконваючае сілы ў словах юнае Еўфрасіні, можна бачыць з таго, што князі спакойна пагадзіліся з Божаю воляю, падобна, як раней ігуменя, і вярнуліся дамоў, а Еўфрасіня асталася ў манастыры дакладна захоўваючы ўсе правілы і ўпраўляючыся ў посьце і малітвах.

Аднак ціхае кантэмплятыўнае жыцьцё старых чарніцаў не магло на доўга здаволіць дзейны характар Еўфрасіні. У меру яе ўзрастаньня збольшвалася яе воля да шырэйшае дзейнасьці. У хвілінах вольных ад абавязуючых практыкаў, яна пачынае перапісваць кнігі. Гэтую думку мусілі ёй падказаць самыя абставіны. Манастыр, у якім яна знаходзілася, быў заложаны нядаўна і напэўна патрабаваў нямала кнігаў для хатняга ўжытку. Каб здаволіць гэтую патрэбу, Еўфрасіня ўзялася за працу перапісчыцы. Для перапісваньня яна мусіла браць кнігі з адзінае бібліятэкі ў Полацку, якая знайходзілася пры царкве сьв. Сафіі.

Магчыма што якраз гэтыя абставіны далі Еўфрасіні новую думку: перасяліцца ў самую царкву сьв. Сафіі, каб быць бліжэй бібліятэкі. З гэтаю просьбаю яна зьвярнулася да тагачаснага полацкага япіскапа Ільлі. Той дазволіў ёй, памятаючы, што калісьці пры Ерузалімскай сьвятыні так-жа пражывалі пабожныя дзевы, між якімі была Найсьвяцейшая Дзева Марыя.

## У Сафійскіх мурох.

Сьв. Сафія Полацкая была найстарэйшаю і найбагацейшаю мураванаю царквою на Беларусі, пабудаванаю дзедам Еўфрасіні Усяславам II Чарадзеям. Некаторыя гісторыкі дадумоўваюцца, што якраз адным з ягоных «чарадзеяньняў» была пабудова ў Полацку нябачанае дагэтуль агра-

маднае і прыгожае мураванае царквы. Нажаль ад першапачатнае будовы да нашых часоў захаваліся толькі фундамэнты і частка муру, рэшта няраз была перабудоўвана і руйнавана. Апошні раз яна была аднаўлена ў XVIII ст. Сьвятасафійскія сьцены былі аздоблены фрэскамі ў стылі тых аздобаў, якія бачым на Тураўскім Эвангельлі (XI в.), як гэта відаць з рэштках захаванае сьцяны. Самая царква знайходзілася на верхнім замку, ці як яго тады называлі Крамлю. Каля яе гуртавалася рэлігійнае і дзяржаўнае жыцьцё Полацкага княства. Пры ёй вісеў вечавы звон, а самае веча зьбіралася на аграмадным «дзядзінцы», які акружаў сьв. Сафію. Тут вырашаліся ўсе важныя дзяржаўныя справы, тут выбіраліся полацкія князі, а ў самай царкве яны прымалі прысягу, апаясваліся старасьвецкім мячом і атрымоўвалі князёўскія азнакі. Царква і ўвесь замак былі абнесены моцнымі мурамі.

Якія багацьці знайходзіліся ў сьв. Сафіі, можна дагадацца з таго факту, што маскоўскі цар Іван Грозны заняўшы на нейкі час Полацк у 1563 г. вывез у Маскву толькі з самае гэтае царквы 300 вазоў серебра, золота і розных каштоўнасьцяў.

У мурох сьв. Сафіі мусілі быць невялікія келіі; вось у адну з такіх келіяў, якую жыцьцяпіс называе «галубцом» і перасялілася Еўфрасіня. Некаторыя гісторыкі дагадваюцца, што гэты «галубец» мусіў быць у ніжнім паверсе царквы, іншыя наадварот. Тут Еўфрасіня з поўным самазапярэчаньнем аддалася духовым практыкам. Сваё выснажанае постам цела узмацняла малітваю, а найбольш часу аддавала на перапісваньне кнігаў, вышываньне аблачэньняў і ўсё гэта пасылала бяднейшым беларускім манастыром і цэрквам. Калі сама не адольвала ўсіх запатрабаваньняў, наймала перапішчыкаў. Гэткім чынам сьв. Сафія ў Полацку стаецца паважным асьветным цэнтрам на Беларусі. Некаторыя кнігі Еўфрасіня прадавала, але атрыманыя грошы так-жа раздавала патрабуючым і ўбогім.



Сьв. Еўфрасіня ў сваёй келіі.

Як перадае традыцыя, пры сьв. Сафіі перахоўваўся летапіс Полацкага княства, які мела перапісаць Еўфрасіня.

Ня толькі перапішчыкі гуртаваліся каля Еўфрасіні, але так-жа і ахвотнікі, ды ахвотніцы навучыцца граматы, дзеля гэтага дзякуючы яе прысутнсьці сьв. Сафія сталася яшчэ больш люднаю і рухаваю, чым была дагэтуль, муры напоўніліся гоманам. Гэткі гоман ня зусім быў па душы тагачаснаму япіскапу. Магчыма, што і для самое

Еўфрасіні ня зусім адказвала такое гамарнае асяродзьдзе, бо мала пакідала ёй часу аставацца ў келіі, таму яна задумала аснаваць новы манастыр. Да гэтага далучаецца выразны Божы знак сьв. Еўфрасіні, што яна мусіць зьмяніць мейсца пражыцьця. Аднойчы ўначы ёй прысьніўся сон, быццам анёл Божы ўзяў яе за руку, прывёў яе да мяйсцовасьці званае Сяльцо, дзе была япіскапская метахія (дварэц) з невялікаю дзераўляннаю царквою сьв. Спаса і сказаў: «Тут табе трэба пражываць, бо хоча Бог на гэтым мейсцы праз цябе спасьці шматлікіх». Гэты сон паўтарыўся тройчы і таму Еўфрасіня паважна задумалася над ім і цешылася, што хоць у сьне бачыла анёла. За гэта яна славіла Бога і пастанавіла прыняць Ягоную волю, кажучы: «Гатова сэрца маё, гатова... як хочаш, Божа, так рабі са мною, Тваею рабою».

Тае самае ночы япіскап меў зусім падобны сон і раніцаю прышоў да Еўфрасіні, каб паведаміць яе аб сваёй пастанове, перасяліць яе ў Сяльцо. Спачатку япіскап зусім не ўспамінаў Еўфрасіні аб сваім сьне. Ён казаў ёй: «Ведаеш, дочка, што царква, ў якой пражываеш, ёсьць саборная, тут усякія людзі зьбіраюцца і табе нядобра тут быць. Затое ёсьць царква сьв. Спаса ў Сяльцы, дзе пахаваны мае папярэднікі, полацкія япіскапы, ці не ўспаможа цябе Бог дзеля іх малітваў і твае працы, каб на тым мейсцы разбудавалася вялікае вогнішча для спасеньня шматлікіх душ?» У гэтых словах Еўфрасіня яшчэ раз пабачыла выяў Божае волі і з пакораю прыняла яе.

## Манастыр сьв. Спаса.

Пераход Еўфрасіні ў Сяльцо, азначаў заснаваньне новага манастыра і прызначаньне япіскапскае зямлі гэтаму манастыру, дзеля гэтага япіскап паклікаў князёў Барыса — дзядзьку Еўфрасіні і Юрыя — бацьку яе, як таксама вызначных баяраў і ўрадаўцаў, паведамляючы іх аб сваім намераньні, заснаваць жаночы манастыр у Сяльцы пад кіраўніцтвам Еўфрасіні і перадаць

гэтаму манастыру на ўласнасьць усе тое, што ў Сяльцы належала япіскапскаму пасаду. Знаходзілася яно ўсяго паўтара кілямэтра ад Полацку на правым беразе Палоты. Князі і баяры адобрылі прапанову япіскапа і з свайго боку зьвярнуліся да Еўфрасіні з радаю прыняць яе. З гэтага можна дагадвацца, што Еўфрасіня ня вельмі ахвотна раставалася з сьв. Сафіяю, хоць у жыцьцяпісе неаднойчы падчыркваецца, што яна з радасьцю прымала словы япіскапа. Акрамя самага прызнаньня новазаснаванага манастыра і наданьня яму ўласнасьці, магчыма, што япіскап спадзяваўся ад князёў атрымаць помач для яго. Гэтая нарада памагае азначыць дату заснаваньня манастыра, не пазьней 1128 г., калі ўжо князя Барыса ня было між жывымі.

На дарогу Еўфрасіня атрымала толькі япіскапскае багаславенства і ноччу, каб не зьвяртаць на сябе ўвагі, і адначасна гэтым нясьведама выяўляючы свой жаль, пайшла ў назначанае мейсца ў таварыстве толькі аднае чарніцы, маючы з сабою толькі некалькі кнігаў для малітвы, тры баханцы хлеба і падарожны кій.

Шчыра з сьлязамі малілася Еўфрасіня на новым мейсцы аб багаславенстве і падтрыманьні. Малітва яе была хутка выслухана. У новы манастыр пачалі зьбірацца ахвотніцы пасьвяціць усё сваё жыцьцё на службу Богу. У бязьмежна ахвярным жыцьці Еўфрасіні было нешта нявымоўна чароўнае і прывабліваючае, якое з усіх куткоў краю і з усіх пластоў грамадзянства сьцягвала штораз новых людзей у духовую сям'ю сьвятое жанчыны. У новазаснаваным манастыры Еўфрасіня была і ігуменяю, і настаўніцаю, але перадусім была жывым прыкладам.

Аднойчы Еўфрасіня папрасіла сваіх бацькоў, прыслаць ёй на навуку яе малодшую сястру Гразіславу (або Гардзіславу). Бацькі пусьцілі і яна навучылася ад Еўфрасіні ня толькі граматы, але і любові да духовага жыцьця, да захаваньня дзявоцтва, да службы Богу і народу ў манастырскіх сьценах. Калі ўмела калісь Еўфрасіня прамовіць

да ігумені, да бацькоў, дык цяпер змагла хутка знайсьці дарогу да сэрца роднае сястры і тая хутка згадзілася астацца ў манастыры назаўсёды. Нічога ня кажучы бацьком, пастрыглася ў чарніцы і Градзіслава, прыняўшы імя Еўдакія.

Бацькі хутка засумавалі за малодшаю дачкою і наказалі адаслаць яе дамоў, але Еўфрасіня нічога ня кажучы аб тым, што сталася, папрасіла бацькоў, каб яшчэ аставілі сястру ў манастыры, бо яшчэ ня зусім добра навучылася пісаць. Аднак бацькі, ведаючы характар свае старэйшае дачкі, мусілі дагадацца, што азначала гэтая просьба. Прытым хутка дайшла да іх пэўная вестка, што Градзіслава пайшла сьледам Прадславы. Тады бацькі з вялікім сумам і бадайшто з яшчэ большым гневам зьявіліся ў манастыр да Еўфрасіні і з горкім дакорам казалі ёй: «О, дочка, што ты зрабіла нам? прылажыла жаль да жалю і сум да суму; ці ня досыць было табе самой пакінуць нас? а тут і другое наша любае дзіця лісьліва выхапіла ад нас! Ці-ж на гэта мы вас радзілі, ці-ж на гэта ўзгадавалі, каб ужо перад сьмерцю, як пакойніцы ў дамавінах у гэтых чорных вопратках і манастырскім запярці замкнуліся, і пазбавілі нас тае пацехі, якое мы спадзяваліся ад вас? Замест радасьці вось гэтыя горкія сьлёзы праліваем!»

Еўфрасіня і на гэты раз знайшла словы, уцішыць бацькаўскі гнеў і сум. З слоў бацькі відаць, які вялікі быў бацькаўскі боль, але шмат большы быў жар любові да Бога сьв. Еўфрасіні. З яе спакойнага адказу бацькі пабачылі, што пад чарнечымі вопраткамі крыецца шмат большая веліч, як гэтага яны спадзяваліся і таму вярнуліся дамоў супакоеныя, а нават суцешаныя.

Яшчэ ня ўсьпела штодзеннае жыцьцё засыпаць сваім пылам здарэньня з Градзіславаю, як дачка князя Барыся Зьвеніслава, сабраўшы ўсе свае каштоўнасьці і дарагія вопраткі падрыхтаваныя да шлюбу, прышла да Еўфрасіні, кажучы: «Усе гэтыя каштоўнасьці даю ў царкву сьв. Спаса і сама хачу Яму адзінаму служыць і ўспрыняць Ягонае ярмо і несьці Ягоны цяжар».

З радасьцю Еўфрасіня выканала яе просьбу і загадала пастрыгчы яе. У пастрыжэньні Зьвеніслава атрымала імя Еўпраксія.

### Будова мураванае царквы сьв. Спаса.

Падчас таго, як манастыр запаўняўся новымі чарніцамі, адначасна расьлі вымогі нават да вонкавага выгляду самога манастыра і асабліва царквы. Дзеравянная царква сьв. Спаса сталася замалою і нездавальняючай, таму Еўфрасіня пастанавіла выбудаваць на яе мейсцы новую мураваную царкву.

Калі нават сёньня ў век так разьвітай тэхнікі пабудова вымагае нямала клопатаў, дык можна сабе ўявіць, як у тых старых часох, калі мулярства ў нас толькі пачынала свой развой, колькі гэта каштавала працы і стараньняў Еўфрасіні, каб ажыцьцявіць свае пляны: найці матэрыял, дойліда, муляроў і пад. Усе гэтыя перашкоды яна хутка перамагла і царкву выбудавалі роўна за 30 тыдняў. Пры гэтай нагодзе даведваемся імя найстарэйшага ведамага пайменна беларускага дойліда Івана з Полацку. І самая царква да нядаўна была найстарэйшаю памяткаю беларускага будўніцтва, але ваенныя падзеі 1942 г. зьнішчылі яе, як гэта відаць з актаў Нюрымбэрскага суду, дзе бальшавікі за гэты злочын абвіняюць немцаў.

Хуткая пабудова царквы сьв. Спаса мела асаблівую помач Божую. У жыцьцяпісе апавядаецца, што дойлід Іван часта над раньнем чуў голас: «Іване, уставай ды йдзі на працу Спасавай царквы!» Ня ведаючы адкуль гэты голас паходзіць, ён думаў, што гэта Еўфрасіня будзіць яго раньнім ранам і таму аднойчы прышоў да яе з жалем, чаму яна прысылае кагосьці панукаць яго так рана да працы. Еўфрасіня зразумела, што гэта для яе асаблівая помач Божая, таму спакойна адказала: «Хоць гэта і ня я пасылаю цябе будзіць і панукаць да працы, але паслухай таго голасу і рабі тое, што табе кажа, бо тое, што робіш ёсьць дзелам Божым».

Калі ўжо будова была на заканчэньні нястала цэглы для завяршэньня. Няма ведама, што магло выклікаць гэтую нястачу, бо цэглу выраблялі і выпальвалі ў цагельні на мэйсцы недалёка ад самае будовы. Тады Еўфрасіня зьвярнулася да Бога з гарачаю малітваю аб помачы: «Божа, ты даў нам больш, дай яшчэ і менш для завяршэньня Твае царквы». Назаўтра знайшлася поўная печ выпаленых цэглаў, якімі змаглі закончыць будову.

Запраўды на будову Спасавае царквы мусіла пайсьці вельмі шмат цэглы, бо яе сьцены, асабліва ўнутраныя слупы, сягаюць амаль двухмэтровай таўшчыні.





Царква сьв. Спаса і яе плян паводля П. Алпатава і Брунава.

Пры гэтай нагодзе варта заўважыць, што паводля адназгоднага сьведчаньня ўсіх вучоных, якія раней мелі нагоду аглядаць гэтую царкву, яна зьяўлялася ня толькі найстарэйшым помнікам беларускага будаўніцтва, але найлепшым вы-

явам яго самабытнасьці. Праўда гэтая будова насіла яшчэ на сабе адбітак суровасьці і часткава неагладжанасьці, але яна сталася першаўзорам для далейшага будаўніцтва на нашай бацькаўшчыне і ў суседніх краёх. Тут ня было таго патураньня іншым чужым стылям, як гэта мела мейсца ў яе папярэдніцы сьв. Сафіі, яна ёсьць арыгінальным чыста мяйсцовым творам і калі мела адбітку ранейшых будынкаў, дык хіба старых замкаў і абаронных муроў. У ёй яшчэ маса прыціскае прастор. Малюсенькія вокны знаходзіліся высока пад скляпеньнем. Бакавыя навы мала шыршыя, як сходы, ў заходняй сьцяне, якія вялі на хоры, дзе знайходзіліся дзьве келіі, у адной з якіх жыла сьвятая. Гэтыя келіі да апошняга часу былі захаваліся ў сваім даўнейшым выглядзе, але вонкавасьць царквы ў пазьнейшых перабудовах атрымала візантыйскі стыль. Апошні раз перабудовалася яна ў 1841 г.

Сьцены царквы былі пакрыты шматлікімі малюнкамі-фрэскамі з стараветнымі напісамі.

З даўных давён гэтая царква ў народзе мела назоў Спаса-Юр'евіча, гэта сьведчыць аб тым, што бацька Еўфрасіні, князь Юрый, так-жа мусіў прычыніцца да яе пабудовы сваімі дарункамі.

Можна сабе лёгка ўявіць, якая была радасьць у манастыры, калі закончылі будову гэтае сьвятыні. Пасьвяціў царкву сам япіскап у саслужэньні ўсяго полацкага кліpacy і ў прысутнасьці абох князёў, значыць яшчэ перад 1128 г. Разам з Еўфрасіняю радаваліся і ўсе палачане, ды сьвяткавалі гэтую падзею некалькі дзён.

Для выяўленьня свае шчырае падзякі Богу, Еўфрасіня ўлажыла адпаведную малітву: «Ты, Госпадзе, сэрцавідча Уседзяржыцялю, зглянься на гэтую царкву, збудаваную ў імя Твае і на мяне нягодную слугу Тваю і іншыя слугі Твае, сабраныя пры гэтай царкве... і працуючым Табе, будзь нам настаўнікам, пастырам і сторажам, каб ніводнае з нас не схапіў на згубу драпежны воўк-нячысьцік. Будзь нам, Госпадзе, аружжам і сьцяною, каб ня сталася нам ліха і рана, каб ня пры-

бліжылася да нашага цела і не загубі нас з нашымі бяспраўствамі. На Цябе спадзяёмся, бо Ты Бог добрасардэчны і літасьцівы для тых, што знаюць Цябе і Табе славу засылаем да апошняга нашага дыханьня».

Да сясьцёр Еўфрасіня зьвярнулася з вельмі вымоўным павучэньнем. Можна дагадвацца, што яно не зьяўляецца выдумкаю жыцьцяпісца, але прынамся нейкім блізкім перказам запраўднага Еўфрасінінскага слова. Яно сьведчыць ня толькі аб дасканалым знаньні сьв. Пісаньня, але і вялікіх вымогах да чарнечага жыцьця, якімі азначалася Еўфрасіня. Аднак форма і стыль гэтага павучэньня мае пазьнейшыя азнакі.

«Вось сабрала я вас, як квахтуха куранят пад крыльлі свае і быццам Божых авец на Божую пашу пасьвіцца ў Божых прыказаньнях, каб і я з радасьцю, а ня з сумам дбала аб вашым спасеньні і навучала вас, цешучыся, бачучы духоўны плод вашае працы. Ужо толькі слоў Божае навукі я сеяла на ніве вашых сэрцаў, а нівы гэтыя на адной меры стаяць, не растуць у дабротах і дасканаласьці. А час жніва набліжаецца і веялка гатовая ў гумне, якая адвее куколь ад пшаніцы, баюся, каб вы ня сталіся куколем і каб ня былі адданы неўгасаючаму агню. Малю вас, сёстры мае, пастарайцеся ўсьцерагчыся ад грахоўнага куколю і ўцячы ад неўгасаючага агню; станьцеся чыстаю пшаніцаю Хрыстоваю і зьмялецеся ў жорнах малітвы, пакоры і посту, і чыстае любові, каб быць любым хлебам на банкет Хрысту».

Хутка пасьля заканчэньня царквы сьв. Спаса Еўфрасіня пастаралася выбудаваць другую мураваную царкву ў імя Прасьвятое Багародзіцы, каля якое заснаваўся мужчынскі манастыр. Да нашых часоў ад гэнага манастыра не асталося нават сьледу, аднак згодна з даўнейшай практыкай звычайна ў тых выпадках, дзе манастыры былі па-за горадам будаваліся мужчынскія і жаночныя ў суседзтве, каб на выпадак нападаў, манахі маглі абараняць абодва манастыры. Маг-

чыма, што якраз дзеля гэтага царква Багародзіцы і мужчынскі манастыр, які быў каля яе, зруйнаваныя дазваньня. Гісторык Сапуноў дагадваецца, што царква сьв. Багародзіцы мусіла быць на тым мейсцы, дзе пазьней знаўходзіўся касьцёл сьв. Ксавэрага на магільніку.

Абедзьве царквы акрамя шматлікіх фрэскаў на сьценах былі аздоблены шматлікімі абразамі.

## ІКОНА ЭФЭСКАЕ БАГАРОДЗІЦЫ.

У зьвязку з будоваю новых сьвятыняў сьв. Еўфрасіня пастанавіла здабыць для іх якіясь вызначнейшыя сьвятасьці. Паводля тагачаснае візантыйскае традыцыі на Усходзе меліся тры іконы Багародзіцы, маляваныя апосталам Лукою: Ерузалімская, Царгародзкая і Эфэская. На Захадзе іншым абразом прыпісвалі апостальскае паходжаньне. Відаць, што візантыйская традыцыя добра была ведама ў Полацку, бо нават полацкія князі былі нейкі час у Візантыі і між імі родны бацька сьв. Еўфрасіні. Адну з гэтых іконаў, у жыцьцяпісе кажацца Эфэскую, і задумала набыць сабе ў Полацк сьв. Еўфрасіня. Дзеля гэтага яна, шчыра памаліўшыся Богу аб помачы, выслала манастырскага слугу Міхася ў Візантыю з багатымі дарункамі для імпэратара Мануіла Комнэна (1143-1180) і патрыярха Лукі Хрызоверга (1156-1169), просячы іх, прыслаць для Полацку Эфэскую ікону Багародзіцы званую Одзігітрыя (Пуцяводніца).

Імпэратар і патрыярх, атрымаўшы шчодрыя дары, здаволілі просьбу, але магчыма ня зусім так, як апавядаецца ў жыцьцяпісе. Як слушна заўважвае Голубінскі, відавочна яны ня прыслалі самага арыгіналу іконы, але копію і то не з Эфэскае, але з Царгародзкае іконы, якая звалася Одзігітрыя. Магчыма, што якраз гэткае і было жаданьне сьв. Еўфрасіні. Дый у самым жыцьцяпісе кажацца што патр. Лука разам з япіскапамі і духавенствам перш пабагаславіў ікону ў саборы і толькі потым перадаў слузе Міхасю. Нельга падумаць, каб нават патрыярх багаславіў ікону маляваную апосталам і ўслаўленую шматлікімі цудамі — гэта ён мог рабіць толькі тады, калі мелася справа з копіяю.

З вялікаю радасьцю атрымала сьв. Еўфрасіня гэтую ікону і ўпрыгожыла яе золатам ды дарагімі каменьнямі. Сталага мейсца для іконы, відаць, ня было, бо ў адных рэдакцыях жыцьцяпісаў кажацца, што яна знаходзілася ў Спаскай царкве, у іншых, — што ў Багародзічнай; гэтая разьбежнасьць вестак выклікана тым, што быў уведзены звычай: кожны аўторак абносіць гэтую ікону па ўсіх полацкіх цэрквах, але напэўна найдаўжэй затрымоўвалася ў Спаскай і Багародзічнай цэрквах, адкуль і выносілася. Сам звычай вынасу іконы кожны аўторак адначасна пацьвярджае думку, што копія была зроблена з Царгародзкае (Візантыйскае) іконы, якую так-жа паводля тагачасных звычаяў выносілі кожны аўторак.

Што сталася пасьля з гэтаю іконаю? цяжка сказаць з пэўнасьцю. Расейскія гісторыкі разам з мітр. Макарыям кажуць, што ў 1239 г. падчас шлюбу маскоўскага князя Аляксандра Неўскага з дачкою полацкага князя Брачыслава, перанесьлі ікону ў Тарапец, дзе яна мела і астацца. Нават меўся быць пісаны акт аб яе пераносе з Полацка ў Тарапец. Затое а. Стэбэльскі, апіраючыся на сьведчаньне Я. Сушы і Кульчынскага, гаворыць, што гэтую ікону меў забраць галіцкі князь Леў і перанесьці ў Бэльзу, адкуль у 1389 г. яе перанесена ў Чэнстахову. Катора з гэтых вестак адказвае праўдзе, сёньня нельга сьцьвердзіць, але ёсьць факт, што іконы ў Полацку няма ад XIV в.

## КРЫЖ ЛАЗАРА БОГШЫ.



Адначасна з іконаю Багародзіцы сьв. Еўфрасіня атрымала з Канстантынополя шматлікія іншыя сьвятасьці. Дзеля перахаваньня гэтых сьвятасьцяў, яна замовіла ў 1161 г. у выдатнага беларускага майстара Лазара Богшы вартасны крыж.

Крыж мае шасьціканцовую форму, велічынёю 51 см. і выкананы з серабра, золата і дарагіх каменьняў. Па бакох крыжу на сярэбраных пазлачаных бляшках знайходзіцца напіс у царкоўнаславянскай мове, які ёсьць вельмі вартасным і

рэдкім дакумантам з тых часоў. Дзеля нястачы царкоўна-славянскага шрыфту падаём і сам напіс у перакладзе: «У лета 6669 (гэта зн. 1161) пакладае Еўфрасіня чэсны крыж у сваім манастыры ў царкве сьвятога Спаса. Чэснае дрэва бязвартаснае ёсьць, а акаваньне яго: золата і срэбра і каменьне і пэрлы 100 грывен, а да... (тут напіс пашкоджаны) 40 грывен. Каб ніколі ня выносіўся з манастыра, ні аддаваўся, ні прадаваўся. Калі-ж хто не паслухаецца і вынесе з манастыра, каб яму не ўспамагаў чэсны крыж ні ў гэтым жыцьці, ні ў будучым, і хай будзе пракляты сьвятою і жыватворчаю Тройцаю і сьвятымі 318 айцамі і сямю саборамі сьвятых айцоў, і хай яго спаткае доля Юды, які прадаў Хрыста. Хто адважыцца зрабіць гэта... (зноў пашкоджана) вяльможа ці князь, ці біскуп ці ігуменя, ці любы іншы чалавек, хай на ім збудзецца гэтае праклящьцё. Еўфрасіня-ж раба Хрыстова, зладзіўшая гэты крыж, прыйме вечнае жыцьцё з усімі сьвятымі».

ВыклікаНы гэты напіс тым, што даўней грабленьне царкоў ня было рэдкім зьявішчам, нават у спакойны час і нават самыя архірэі асабліва грэкі няраз забіралі з царкоў вартасныя рэчы. У Полацку якраз нядаўна займаў япіскапскі пасад грэк Козма (1143-1156), магчыма ён прычыніўся да таго, што ў напісе не забыліся ўспамянуць і «біскупа».

Варта заценіць, што тагачасная царкоўна-славянская мова ў напісе мае паважны ўплыў жывое беларускае мовы з характэрным аканьнем, напр.: манастырь, акаваньіе, Офросинья, пискоупъ. Трэба думаць, што кнігі, перапісваныя сьв. Еўфрасіняю ўсе мелі гэткія ўплывы жывое тагачаснае мовы.

Пры канцы ручкі на крыжы ёсьць напіс майстра: «Госпадзе, памажы рабу свайму Лазару, званаму Богшы, зрабіўшаму гэты крыж, для царквы сьвятога спаса і Еўфрасіні». Пачатак гэтага напісу зусім такі самы, які сустракаецца на Барысавых камянёх.

На крыжы знайходзяцца выкананыя ў пера-гарадчатай візантыйскай эмалі абразы Хрыста, Багародзіцы і сьвятых, а каля іх адпаведныя напісы. З напісаў так-жа даведваемся аб тых мошчах, якія знайходзяцца ў крыжу: 1) частка дрэва акропленая крывёю Іс. Хр., і 2-я крыху большая частка дрэва сьв. Крыжа, 3) камень ад гробу Багародзіцы, 4) частка мошчаў першамучаньніка Сьцяпана, 5) кроў сьв. Дзьмітра, 6) частка мошчаў сьв. Панцялеймана.

Мастацкая апрацоўка крыжа сьведчыць, што ў XII в. у нас на бацькаўшчыне былі майстры, якія ў майстэрнасьці з золатам і эмальлю асягнулі вяршок тагачаснае візантыйскае тэхнікі. Дзеля гэтага некаторыя расейскія гісторыкі стараліся вышукаць нейкую быццам полацкую традыцыю, паводля якое крыж меў быць зроблены ў Ерузаліме, а толькі прыкрашаны ў Полацку. Трэба думаць, што гэтую дагадку маглі выклікаць напісы каля сьвятых амаль у чыстай грэцкай мове славянскімі літарамі, напр.: (а) Лукас, (а) Маркос, гагія Софія і т. д. Аднак самая форма крыжа падобная да таго, які бачым на Барысавых камянёх, беларускія словы ў напісе і самае прозьвішча майстра адназгодна і ясна сьведчаць, што ён увесь быў зроблены ў Полацку. Веда грэцкае мовы зьявілася ў Полацк адначасна з япіскапамі грэкамі.

На вялікі жаль няма ведама, дзе гэты крыж знайходзіцца сёньня і агулам, ня ведама якая яго спаткала доля. Каля 1930 г. былі паявіліся весткі ў газэтах, што бальшавікі мелі яго прадаць у Швэцыю. Ці запраўды так сталася, можна будзе даведацца ў больш нармальных часох. Аднак пракляцьце выпісанае на крыжы не абміне бязбожнае, злачыннае рукі, якая яго вынесла з Спаскае царквы.

## ПАЛОМНІЦТВА Ў СЬВ. ЗЯМЛЮ.

Перш, чым гаварыць аб самым паломніцтве, трэба зазначыць, што некаторыя гісторыкі, апіраючыся на тым факце, што цела сьв. Еўфрасіні да 1910 г. знайходзілася ў Кіяўскай Пячэрскай Лаўры, стараліся даказваць, што сьв. Еўфрасіня рабіла паломніцтва толькі ў Кіяў і там памерла. Гэтая дагадка зусім ня згодная з фактамі. Аб тым, як цела сьвятое знайшлося ў Кіяве, даведаемся потым. Усе жыцьцяпісы і традыцыя аднагодна сьведчаць аб тым, што яна хадзіла ў Палестыну. Ведаючы дату сьмерці 23-V, паломніцтва ў Кіяў трэба было-б пачынаць у красавіку, а гэта амаль немагчыма дзеля вясеньняга бездарожжа.

Думка аб паломніцтве ў Сьвятую Зямлю мусіла зьявіцца ў сьв. Еўфрасіні пасьля атрыманьня іконы Багародзіцы з Царгароду. Слухаючы апаяданьня слугі Міхася аб далёкім і цікавым падарожжы і аб сьвятынях, сьв. Ефрасіня праектуе паломніцтва ў Ерузалім, каб пакланіцца Хрыстоваму гробу і там памаліцца за сябе і за родны край. Аб сваім намеры яна паведамляе ўсіх сваіх родных. Тыя на гэткую вестку зьехаліся ў манастыр сьв. Спаса і стараліся адмовіць сьв. Еўфрасіню ад такога вялікага, цяжкога і даволі небясьпечнага падарожжа. У жыцьцяпісах падчырkваецца, што яны малілі яе, каб «не пакідала іх і ўсяе свае бацькаўшчыны». Сьвятая супакоіла іх, што не пакіне іх, але пойдзе маліцца за іх.

Перад самым ад'ездам сьв. Еўфрасіня не змарнавала нагоды павялічыць лік сясьцёр свайго манастыра. Калі разам з усімі роднымі прыехаў брат сьв. Еўфрасіні Вячэслаў з жонкаю і дзьвюмя дочкамі Кірыніяю і Ольгаю, дык пасьля даўжэйшае гутаркі сьв. Еўфрасіня заўважыла, што абедзьве князёўны цікавяцца манашым жыцьцём. Жыцьцяпісец зазначае, што сьвятая мела такі дар

ад Бога; калі на каго глянула, адразу бачыла, ці ёсьць у ім дабрадзейны дух і ці можа быць выбраньнікам Божым. Дзеля гэтага, калі Вячэслаў астаўся начаваць у манастыры, дык сьвятая для яго прызначыла асобны пакой, а князёўнаў паручыла сястры Еўдакіі. Астаўшыся з імі на адзіноце, зьвярнулася да іх з такою прапановаю: «Хачу вас заручыць бясьсьмертнаму Жаніху і ўвясьці ў Ягонае валадарства». На гэта абедзьве адказалі: «Хай станецца воля Господня і твая сьвятая малітва; як хочаш, валадарка, так рабі з намі».

Па некалькі днёх сьв. Еўфрасіня заклікала брата і сказала яму, што хоча пастрыгчы ў чарніцы ягоных дачок. Вячэслаў гэтаю весткаю быў вельмі незадаволены і прыгноблены і зьвярнуўся да яе з дакорлівым словам: «Валадарка мая, што ты надумалася зрабіць мне; два плачы хочаш спрычыніць душы маёй: па табе маю плакаць, што адходзіш ад нас і па дзецях сваіх сумаваць, што мяне пазбавяць пацехі». Княгіня-ж на гэтую вестку залівалася горкімі сьлязамі, але ўканцы абое не змаглі супрацівіцца сьв. Еўфрасіні і прысталі на яе волю. Яна заклікала тагачаснага япіскапа Дзіянісія (1166-1182) і ён пастрыг абедзьве князёўны ў царкве сьв. Спаса і багаславіў іх. У пастрыжэньні Кірынія атрымала імя Агата, а Ольга — Еўфімія.

Хутка пасьля гэтага здарэньня сьв. Еўфрасіня канчаткова ўстанавіла устаў для абох манастыроў мужчынскага і жаночага ды перадала ігуменства сваёй сястры Еўдакіі, а сама пачала рыхтавацца ў дарогу.

Памаліўшыся, сьв. Еўфрасіня ў таварыстве малодшага брата Давіда, сястры Еўпраксіі і слугі Міхася, разьвіталася з усім блізкімі і знаёмымі ды выправілася ў далёкі шлях. Палачане з шчырым жалем і сьлязамі далёка суправаджалі яе.

Які быў шлях гэтага паломніцтва ў жыцьцяпісе не гаворыцца, але ўспамінаецца, што па дарозе стрэнула «цара, які йшоў на Мадзяраў і адаслаў яе з вялікаю чэсьцю у Царгарод». З гэ-

тага выходзіла-б, што яна выбрала шлях сухапуцьцем, а ня тым слаўным водным шляхам «З Вараг у Грэкі», па якім рабіліся вялікія падарожжы.

Гэта так-жа сьведчыла-б аб тым, што паломніцтва пачалося зімою. Паводля тагачасных звычаяў ў нас вялікія падарожжы рабіліся або раньняй зімой, або раньнім летам, каб абмінуць цяжкое бездарожжа. Выйшаўшы з Полацку каля Каляд, вясною можна было быць каля Візантыі. У гэтым выпадку толькі вясною сьв. Еўфрасіня магла спаткаць імпэратара. Гэтае спатканьне і пазваляе дакладна азначыць дату паломніцтва і адначасна сьмерці. Ужо расейскі гісторык Голубінскій заўважыў, што спатканьне з імпэратарам Мануілам Комнэнам можа быць выкарыстана для ўсталеньня даты паломніцтва, але адмовіўся ад гэтае працы, спасылаючыся на тое, што Мануіл некалькі разоў рабіў паходы супраць Мадзяраў. Тымчасам з таго факту, што сьв. Еўфрасіня выйшла з Полацку ўжо тады, калі там япіскапам быў Дзіянісій, які пастрыгаў Кірынію і Ольгу ,паломніцтва не магло быць раней 1166 г., бо ён незадоўга да гэтага часу заняў полацкі пасад, але з другога боку імпэратар Мануіл апошні паход супраць Мадзяраў рабіў так-жа ў 1167 г. У гэты паход ён вышаў на Вялікдзень 8-га красавіка, вос-жа якраз і мог спаткацца з сьв. Еўфрасіняю дзесьці на абшары свае імпэрыі хутка пасьля выхаду. Як бачым факты зусім добра годзяцца з сабою, таму 1167 г. трэба прыняць, як пэўную дату паломніцтва сьв. Еўфрасіні. Перадапошні паход Мануіла быў у 1163 г. распачаўся летам — гэтым самым яго нельга пагадзіць з фактамі паданымі ў жыцьцяпісе. Гэтаксама трэба адкінуць падаваныя дагэтуль даты 1173 і 1175, як зусім беспадстаўныя, зрэштаю яны і падаваліся толькі, як прыблізныя, а не як пэўныя.

Вяртаючыся далей да самага паломніцтва, бачым, што сьв. Еўфрасіня пасьля сутрэчы з імпэратарам накіравалася ў Царгарод праўдападобна у суправаджэньні імпэратарскіх прадстаўнікоў.



Сьв. Еўфрасіня-Прадслава
паводля В. М. Васьнецова

Там яе сустракалі з почасьцямі, але гэта не затрымала яе доўга ў Царгародзе. Яна адведала вялікую царкву сьв. Сафіі, купіла дарагіх кадзілаў, залатую кадзільніцу і ўзяўшы багаславенства ад патрыярха, пасьпяшыла ў Ерузалім. Ня было ў характары сьв. Еўфрасіні затрымоўвацца доўга нават у слаўным Царгародзе, калі галоўная мэта падарожжа — Ерузалім яшчэ была ўперадзе.

У Царгародзе было лёгка знайсьці магчымасьць хутка даехаць у Палестыну, таму ўжо ўканцы красавіка сьв. Еўфрасіня разам з сваімі спадарожнікамі ступіла на Сьвятую Зямлю.

Набліжаючыся да Ерузаліму сьв. Еўфрасіня выслала свайго слугу з просьбаю да тамтэйшага патрыярха, каб адчыніў ёй «Хрыстовыя вароты». Тут праўдападобна маецца на ўвеце «Залатыя вароты», якія знайходзяцца ўва ўсходняй часьці Ерузаліму з боку Элеонскае гары, праз каторыя паводля пазьнейшае традыцыі Хрыстос, перад сваімі мукамі, ўрачыста ўвайходзіў у Ерузалім у вербную нядзелю. Гэтыя вароты вядуць на плошчу Омара і ў часе, калі Ерузалімам валодалі Туркі, хрысьціянам агулам туды ўступ быў забаронены. Аднак падчас паломніцтва сьв. Еўфрасіні ў Ерузаліме панавалі рама-каталіцкія цары крыжаносцаў, у руках якіх знайходзілася ўлада між 1099-1187 г. Трэба думаць, што і самая просьба аб адчыненьні «Залатых варотаў» хутчэй адносілася да тагачаснага царя Амальрыха I (1162-1173). Ён, як і ягоныя напярэднікі, былі ў далёкім спародненьні з нашымі князямі праз жонку францускага караля Гэнрыка I Ганну Яраслаўну (1019-1054). Магчыма, што гэты далёкі успамін, а на дадатак яшчэ і паручэньне ад імпэратара Мануіла Комнэна, пляменьніца якога была жонкаю Амальрыха, спрычынілася да таго, што просьбу сьв. Еўфрасіні ахвотна выканана. Шчодры падарунак ад сьвятое відаць так-жа меў сваё значэньне, бо гэты кароль ведамы з таго, што быў ласы на грошы і почасьці, а сьв. Еўфрасіня ніколі пасланца ня высылала з пустымі рукамі.

Увайшоўшы праз «Залатую браму» ў Ерузалім, сьв. Еўфрасіня перапрасіла Хрыста за гэткі крок і разам з усімі сваімі спадарожнікамі пайшла пакланіцца Хрыстоваму Гробу. Туды прыходзілі яны на малітву тры дні падрад. Уканцы сьв. Еўфрасіня абкадзіла Гроб прынесенымі з візантыі кадзіламі, шчодра абдарыла сьвятыню і пакінула на Гробе ў дарунку ад Беларусі залатую кадзільніцу і зьвярнулася да Хрыста з малітваю, каб умерці ў гэным сьвятым горадзе. З усяго паступованьня сьв. Еўфрасіні відаць, што гэтая просьба ня была пустым жаданьнем славы, але найбольшым актам гэройства: аддаць жыцьцё сваё ў ахвяры за родны край, падобна, як Хрыстос аддаў жыцьцё за ўвесь людзкі род.

## СЬМЕРЦЬ СЬВ. ЕЎФРАСІНІ.

Малітва яе была выслухана, бо прышоўшы ад сьв. Гробу ў манастыр сьв. Багародзіцы, у якім была затрымаўшыся, яна адразу занемагла. Лежучы хвораю, сьв. Еўфрасіня шчыра дзякавала Богу за тое, што і гэтым разам выслухаў яе малітву і пачала рыхтавацца да сьмерці. Перад сьмерцю яна вельмі жадала быць на Іардане, аднак хвароба ўжо не дала ёй магчымасьці пайсьці туды, дзеля гэтага яна выслала сваіх спадарожнікаў, каб прынамся прынесьлі ёй вады з Іардану. Калі тыя вярнуліся з Іарданскаю вадою, сьв. Еўфрасіня ўстала з ложка ім на спатканьне, напілася вады, акрапілася ёю і легла зноў, ды пачала маліць Бога, каб хутка прыняў яе душу.

У часе гэтае хваробы ёй зьявіўся анёл, і паведаміў, што Бог выслухаў яе малітвы, прыняў яе ўсю працу і што на спатканьне яе душы ўжо чакаюць анёлы ў небе.

З вялікай радасьцю і бязьмернай удзячнасьцю ўспрыняла сьв. Еўфрасіня гэтую вестку і паслала ў манастыр сьв. Савы, прасіць тамтэйшага архімандрыта, каб далі ёй мейсца на пахаваньне. Архімандрыт вельмі прыхільна прыняў пасланца, але ня мог здаволіць ягонае просьбы, бо паводля волі сьв. Савы ў манастыры было забаронена хаваць жанчын. Ён параіў пасланцу зьвярнуцца ў Тэадозіяў манастыр сьв. Багародзіцы, у якім спачывалі: маці сьв. Савы, маці сьв. Тэадозія, маці сьв. бяссрэбранікаў Кузьмы і Дзямяна ды іншыя выдатныя жанчыны. Сьв. Еўфрасіня скарыстала з рады і атрымаўшы згоду тамтэйшага архімандрыта шчыра дзякавала Богу за такую вялікую чэсьць спачываць між сьвятых жанчын. Яна закупіла сабе мейсца ў прытворы і дамавіну ды спакойна чакала апошняе хвіліны.

Калі на дваццаць чацьвёрты дзень хваробы яна адчула блізкі канец, заклікала сьвятара, выспавядалася і запрычашчалася і хутка аддала сваю сьвятую душу Богу 23-га травеня 1167 году.

З чэсьцю пахавалі сьв. Еўфрасіню ў раней закупленым гробе. Невясёлыя вярталіся спадарожнікі сьв. Еўфрасіні ў родны Полацк нясучы сумную вестку аб сьмерці сьвятое. Усе Палачане з вялікім жалем успрынялі гэтую сумную вестку пастанавілі сьвяткаваць памяць сьв. Еўфрасіні, славячы Трыадзінага Бога за тое, што маюць сваю заступніцу ў небе.

## ДЗЕЙНАСЬЦЬ СЬВ. ЕЎФРАСІНІ.

Пераказваючы ў кароткіх словах жыцьцё сьв. Еўфрасіні, няраз прыходзілася зьвяртаць увагу на розныя дробныя жыцьцёвыя здарэньні, за якімі калі-ні-калі быццам губляўся агульны абраз яе дзейнасьці, таму неабходна зьвярнуць асобную ўвагу, на галоўны кірунак гэтае дзейнасьці, каб абраз самое сьвятое стаў перад нашымі вачыма ў яськейшым сьвятле.

Поле дзейнасьці сьв. Еўфрасіні было вельмі шырокае і даволі ўрадлівае. Да гэтага спрычыніліся тры дзейнікі: яе ўроджаная здольнасьць, высокая асьвета і асаблівая ласка Божая. Усё гэта натхняла яе да важных і адважных пачынаньняў і, не зважаючы на ніякія перашкоды і цяжкасьці, не зьнеахвочвала яе аж датуль, пакуль не асягала намечанае мэты.

Аб надзвычайных прыродных здольнасьцях сьв. Еўфрасіні сьведчыць яе нахіл у раньняй маладосьці да глыбокіх разважаньняў над сэнсам жыцьця; яе нахіл да навукі і лёгкае ўспрыйманьне граматы, а найважнейшае дык гэта тое, што яна мела нязломную волю разьвіць гэтыя свае здольнасьці магчыма найлепш і ахвяраваць іх на службу Богу і народу. Мы бачылі, што ані багацьце, ані слава, ані княжыя пачасьці, ані абяцанкі зямнога шчасьця, ані бацькоўская любоў, ані нават сьлёзы родных і любых бацькі і маці не адвялі сьв. Еўфрасіні ад пастановы ахвяраваць усё свае жыцьце Богу. У гэтым і ёсьць яе веліч, што ўсе свае здольнасьці, усе магчымыя пачасьці і дачасную славу, яна **сьведама і дабравольна прынесла ў ахвяру Богу за асьвячаньне і асьвечаньне свайго народу.**



4

Яна не шкадуе сілаў над разьвіцьцём сваіх здольнасьцяў, каб гэтым самым яе ахвяра была большая і сьвяцейшая. Мы бачылі, што сьв. Еўфрасіня ўдома атрымала толькі пачаткавую асьвету, але потым з першага свайго манастыра яна перасяляецца ў сьвята-Сафійскую царкву, дзе была вялікая бібліятэка і там саматужна здабывае вышэйшую асьвету, якую тады агулам можна было здабыць і адначасна дакладае ўсіх сілаў для пашырэньня гэтае асьветы між сваіх суродзічаў. Яна ня толькі перапісвае кнігі, але такжа і перакладае іх з грэцкае і лацінскае мовы на сваю родную, каб гэткім чынам узбагаціць сваю літаратуру. Пад яе рукою кожная чорная літарка на белым аркушы пэргамэну замянялася ў ясны праменьчык, які разьліваўся цудоўным зьзяньнем і разыходзіўся шырока па беларускай зямлі.

Божая ласка бачна падтрымоўвала на кожным кроку яе кволыя жаночыя сілы і гартавала да вялікіх ўчынкаў. Ніводнае яе пачынаньне не асталося недаконачаным. У яе жыцьці ёсьць ясны прыклад, як зьдзейсьніваюцца словы Хрыста: «Шукайце перш валадарства Божага і справядлівасьці Яго, а ўсё іншае даложыцца вам».

За сьветлым прыкладам сьв. Еўфрасіні паўставалі разрасталіся адзін за другім жаночыя і мужчынскія манастыры, пры іх паўставалі школы, прытулкі для ўбогіх, хворых і сіратаў.

З манастыра сьв. Спаса ў Полацку пачынае ад XII в. крынічыць рэлігійнае і культурнае аднаўленьне краю. Мы бачылі, што там быў сабраны не малы гурток асьвечаных манашак-князёўнаў сёстраў сьв. Еўфрасіні, якія не шкадавалі сілаў, каб ісьці верна сьледам за заснавальніцаю сьв. Спаскага манастыра. Трэба думаць, што гэткім-жа сьледам пайшоў і мужчынскі манастыр сьв. Багародзіцы.

Каб шукаць з людзкога гледзішча: ў чым быў сакрэт плоднае працы сьв. Еўфрасіні, дык трэба дагадвацца, што ён быў у сваеасаблівым падыходзе да справы пашырэньня асьветы і хры-

сьціянства. Яна абрала шлях не змаганьня з старымі традыцыямі, як гэта рабілі чужынцы на нашых землях, але асьвячаньня ўсяго таго, што агулам хрысьціянства магло асьвяціць. Гэты падыход ясна відаць у будове царквы сьв. Спаса, у якой першы раз у гісторыі беларускае культуры была спалучана мулярская візантыйская тэхніка з тагачасным беларускім народным будаўніцтвам, пры чым гэтае народнае будаўніцтва было адухатворана і накіравана да высокіх ідэалаў. Тое самае сталася і з народным мастацтвам, якое было спалучана з іконаграфіяю. Гэткім чынам можна было лёгка ахапіць хрысьціянізацыю краю аж да найніжэйшых народных пластоў уключна і гэтым самым быў зроблены паважны крок упярод ў гісторыі беларускае культуры агулам і хрысьціянізацыі Беларусі ў асаблівасьці. Нічога тады дзіўнага, што з іменем сьв. Еўфрасіні блізка зьвязаны імёны першага беларускага дойліда Івана з Полацку і мастака Лазара Богшы — гэтыя імёны сьведчаць вымоўна, што дзейнасьць сьв. Еўфрасіні стварыла добры грунт для разьвіцьця народных талентаў.

Дабрадзейны ўплыў сьв. Еўфрасіні не абмяжоўваўся толькі рэлігійным і культурным полем, ён сьледны так-жа ў грамадзкім і дзяржаўным жыцьці. Ужо хоць-бы дзеля таго, што полацкія князі былі яе найбліжэйшаю раднёю, між князямі і сьв. Еўфрасіняю былі вельмі блізкія суадносіны, у якіх часта можна заўважыць дабрадзейны ўплыў сьвятое. Гэты ўплыў перадусім меў на мэце палагодзіць мірным спосабам усякія непаразуменьні між князямі, «бо не хацела бачыць, каб былі ў суцяжніцтве між сабою князь з князем, ці баярын з баярынам, ці просты чалавек з сваім бліжнім, але хацела, каб усе былі, як адна душа», кажа жыцьцяпісец.

Зусім канкрэтны выпадак гэтае годчае дзейнасьці сьвятое гісторыкі дабачваюць у паводзінах князя Васілька (1132-1143) супраць Усевалада Мсьціславіча, бацька якога спрычыніў толь-

кі няшчасьця для Полацкіх князёў. Калі Усевалад прайходзіў каля Полацку ў Пскоў, Васілько мог лёгка напасьці на яго і адпомсьціць за нядаўныя крыўды, аднак замест помсты ён вышаў насустрач Усеваладу і прыязна гасьціў яго. Відаць, што гэткая «любоўная помста» была для Усевалада больш даймаючая, як усякая іншая, крывавая, бо ў выніку гэтага спатканьня паўстала супольная прысяга не ўспамінаць таго, што было раней. Абодва князі гэтую прысягу датрымалі — рэдкае зьявішча на тыя часы. Для сьв. Еўфрасіні гэта было вялікім асягненьнем.

Сьв. Еўфрасіня была ў блізкіх адносінах ня толькі з сваімі князямі, але так-жа і з візантыйскім імпэратарам Мануілам Комнэнам, з якім вяла карэспандэнцыю ў грэцкай мове. Некаторыя гісторыкі з гэтага факту дагадваюцца зусім слушна, што яна мусіла садзейнічаць у рэлігійнай палітыцы імпэратара Мануіла, якая накіроўвалася на паедналньне Усходняе і Заходняе Царкоў. На нашых землях тады яшчэ ня было і сьледу варожасьці між Цэрквамі, але відаць дзякуючы ўплыву сьвятое нават япіскапы грэкі ў Полацку, як, напр., Косма (1143-1156) не рабілі нічога, каб гэтую варожасьць распальваць.

Шырокае поле дзейнасьці сьв. Еўфрасіні бесьпярэчна мусіла высока падняць аўтарытэт ня толькі Полаччыны, але агулам усяе Беларусі ў вачох візантыйскага імпэратара і патрыярха, ужо ня кажучы аб суседніх княствах.

Уканцы трэба зазначыць, што побач усіх пералічаных вышэй учынкаў сьвятое, яе малітва, ахвярнасьць і самазапярэчаньне разам з падобнымі ўчынкамі яе супадзьвіжніцаў, вымольвалі ў Бога тую раўнавагу для бацькаўшчыны, без якое жыцьцё стае хаотычным.

Сьветлы прыклад, ахвярнае жыцьцё, рухавая дзейнасьць, шчырая малітва і бязьмежнае самазяпярэчаньне сьв. Еўфрасіні прычыніліся да прыгожага росквіту хрысьціянскіх цнотаў у нашым народзе, ушляхотнівалі пачуцьцё дабра і красы,

збольшвалі рэўнасьць да спасеньня душы, лагодзілі звычаі і абычаі, уздымалі асьвету і культуру беларускага народу — таму так высока цэніць і шчыра любіць народ гэтую сваю сьвятую.

# Культ сьв. Еўфрасіні

## ПРЫЗНАНЬНЕ СЬВЯТАСЬЦІ.

Жыцьцё і дзейнасьць першае ігуменьні манастыра сьв. Спаса ў Полацку Еўфрасіні-Прадславы, для усіх, хто толькі яе ведаў, было на толькі цнатлівым, чыстым і богабаязным, што адразу пасьля яе сьмерці ўсе палачане прызналі яе сьвятою і пачалі сьвяткаваць ейную памяць 23 травеня.

Кананізацыя сьвятых ува ўсёй Усходняй Царкве, а тым самым і ў нас да XIV веку, ня мела тых фармальнасьцяў, якімі яна азначаецца цяпер; гэтая справа належала да мяйсцовага япіскапа і праводзілася вельмі проста. Лепш кажучы, гэта было прызнаньне агульнае думкі сьвятароў і вернікаў, калі яны пачыналі нейкага ўважаць за сьвятога, паколькі гэта гадзілася з духам Царквы.

Адносна Еўфрасіні дык думка аб яе сьвятасьці была ўсюды адназгодная, як гэта выразна відаць з жыцьцяпісу, дзе даслоўна кажацца, што палачане даведаўшыся аб яе сьмерці «многа плакавшэ, воспрыяша совершаці памяць ея». Ад таді дзень яе памяці 23-га травеня стаецца днём радасьці. Ужо першы жыцьцяпісец складае на чэсьць сьв. Еўфрасіні цудоўны гымн, якім канчае свой жыцьцяпіс:

«Якою моваю, браты, годзіцца нам пахваліць сьветазарную памяць прэпадобнае нявесты Хрыста — Еўфрасіні?! Яна-ж была памоцніца пакрыўджаным, сумуючым — пацеха, нагім — адзявальніца, хворым — адведвальніца; проста кажучы, усім усё была. Сэрца-ж сваё Еўфрасіня паіла боскаю мудрасьцю. Еўфрасіня кветка, што ня вяне з райскага саду; Еўфрасіня небаўзьлётны арол,

які пралятаў ад захаду да ўсходу, як сонечны прамень, які прасьвяціў усю Полацкую зямлю. Дык хай, браты, хваліцца Солунь Дзімітрам, Вышэгарод — мучанікамі Барысам і Глебам, а я-ж хвалю: шчасьлівы ты, Полацкі горад, узрасьціўшы такую расьціну, прэпадобную Еўфрасіню; шчасьлівыя і людзі, якія жывуць у тым горадзе; шчасьлівыя бацькі твае; шасьлівае лона, з якога выйшла прэпадобная спажа Еўфрасіня; шчасьлівае народжаньне і шчасьлівы узрост твой і подзьвіг твой; шчасьлівыя і манастыры твае: шчасьлівыя людзі, якія жывуць у манастырох Усеміласьцівага Спаса і Прачыстае Багародзіцы; шчасьлівыя людзі, якія паслужылі прэпадобнай нявесьце Хрыста Бога нашага. Маліся, прэпадобная, аб грамадзе сваёй да Бога, бо Яму належыцца ўсякая слава, чэсьць і паклон...».

У гэтай пахвале аўтар жыцьцяпісу, відаць сам палачанін, адлюстроўвае ясна агульную думку сваіх суродзічаў, якія цешыліся, што нарэшце іхныя рэлігійна-нацыянальныя імкненьні Бог дазволіў праявіць у сьветлай постаці сьв. Еўфрасіні.

Магчыма, што прызнаньне сьвятасьці адбылося яшчэ за жыцьця яп. Дзіанісія (1167-1182), думку гэту можа пацьвердзіць той факт, што ў гэтым часе быў напісаны першы жыцьцяпіс сьвятое і хутка быў пашыраны ня толькі па ўсёй Беларусі, але шырока па-за межамі. Да нашых часоў і дайшлі якраз розныя небеларускія перарабкі першапачатнага жыцьцяпісу.

У Ерузаліме, дзе памерла сьв. Еўфрасіня, такжа яе зразу пасьля сьмерці ўважалі сьвятою. Калі адзінаццаць гадоў пасьля яе сьмерці ў 1178 г. манахі з Тэадозіявага манастыра, пры набліжэньні туркаў, уцякалі з Ерузаліму, дык як адзін з вялікіх скарбаў забралі з сабою мошчы сьв. Еўфрасіні і перавезьлі іх у Кіяў. У Расейскай Праваслаўнай Царкве сьвятасьць Еўфрасіні афіцыяльна была прызнаная толькі ў 1547 г. на Маскоўскім саборы.



Абраз сьв. Еўфрасіні-Прадславы Полацкае, адзін з найбольш распаўсюджаных у Полаччыне.

## Культ сьв. Еўфрасіні ў праваслаўнай Царкве.

Доўгі час. сьв. Еўфрасіня лічылася мяйсцовай полацкай сьвятою. Але гэтым самым, што Полацк у XII веку быў культурным цэнтрам усяе Беларусі, дык і культ сьв. Еўфрасіні з найдаўнейшых часоў быў пашыраны па ўсёй Беларусі, як патронкі краю.

Відаць, што гэтая нацыяналізацыя сьвятое Еўфрасіні прычынілася да таго, што доўгі час яе культ нават у блізкіх суседніх народаў быў амаль няведамы.

На Украіне, не зважаючы на тое, што мошчы сьв. Еўфрасіні знаходзіліся ў Кіяве аж да 1911 г., яе культ быў пашыраны вельмі мала. Яна успаміналася толькі ў агульным багаслужэньні 28-га жніўня і на другой нядзелі вялікага посту разам

з сьвятымі, якіх мошчы знайходзіліся у Дальняй Тэадозіявай Пяшчэры. У восьмай песьні канона на чэсьць гэтых пячэрскіх угоднікаў, які ўлажыў Мялецій Сірыга, у трэцім трапары кажацца: «Еўфрасінію, радованіе Полацкае і дзевам сіяніе, Хрысьце мой, Табе прывожу малітвеньніцу, яежэ радзі спасі мя». У дзень 23-га травеня бальшыня літургічных кнігаў выданых у Кіяве найчасьцей не ўспамінае сьв. Еўфрасіні. У XIX в. русыфікацыя Праваслаўнае Царквы на Украіне, падобна як і на Беларусі, была значна ўзмоцненая, а гэытм самым і культ сьвятых, вось-жа і культ сьв. Еўфрасіні быў уняты ў рамкі расейскае імпэрыялістычнае палітыкі.

У Расеі да XVI в. ня было зусім ніякага культу сьв. Еўфрасіні. Выдатны расейскі царкоўны гісторык Галубінскій найвыразьней аб гэтым кажа, што «для Маскоўскае Русі Еўфрасіня была так-бы сказаць чужая». Толькі калі маскоўскія цары распачалі захопніцкія войны з Вялікім Беларускім (Літоўскім) княствам, тады на Маскоўскім саборы у 1547 г. жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні быў упісаны у Четьі-Мінеі на дзень 23-га травеня. Дзіўна аднак, што ў «Сьцепеннай Кнізе» дата сьмерці сьвятое, а тым самым і дата яе памяці, азначалася на 24-га травеня ,а ў зборніку Троіцкае Лаўры — на 25-га травеня. Гэта можа сьведчыць толькі аб тым, што ў Расеі сьв. Еўфрасіня была ўпісана ў літургічныя кнігі больш дзеля прапаганды, чым для культу. І сапраўды ў сьвятцах дваццаці служэбнікаў маскоўскага выданьня з XVII в. сьв. Еўфрасіня не спатыкаецца. Толькі ад XVIII в. у некаторых большых служэбніках маскоўскага выданьня пачынаюць друкаваць дня 23-га травеня пасьля прэп. Міхаіла Сінадскага і знайдзеньня мошчаў Леонція Растоўскага, такжа «Прэп. Еўфарсіню».

Асобная служба на чэсьць сьв. Еўфрасіні расейскага ўкладу была зацьверджана толькі ў 1893 г.; акафіст толькі ў 1900 г. напісаны ераманахам Нікадымам. Такое позьняе пашырэньне

культу сьв. Еўфрасіні ў Расейскай Прав. Царкве тлумачыцца тым, што сьвятая была ў вялікай пашане ў Беларускай Уніяцкай Царкве, таму нават пасьля скасаваньня Уніі ,пакуль яшчэ ў народзе былі жывыя уніяцкія традыцыі, расейскія ўлады былі асьцярожныя з культам сьв. Еўфрасіні.

Варты ўвагі такі дробны факт, што абраз сьв. Еўфрасіні намаляваны ў 1839 г. беларускім мастаком Токаравым, родам з Бешанковіч, дзесьці так «загінуў», што і сьледу па ім знайсьці нельга. Абраз прэдстаўляў сьвятую ўва ўвесь рост. У левай руцэ яна трымала крыж, а правай, паказвала на азнакі княжай улады: карону і мантыю. Абраз быў прызначаны для Полацкай Сафіі.

## Культ сьв. Еўфрасіні ў каталіцкай Царкве.

Магчыма, што ў некаторых праваслаўных вырыне пытаньне: Якім чынам сьв. Еўфрасіня магла трапіць у лік каталіцкіх сьвятых? Зусім проста. Паводля адназгоднага сьведчаньня ўсіх каталіцкіх гісторыкаў Беларусь да XIII в. была ў лучнасьці з Рымам, таму ня толькі сьв. Еўфрасіня, але ўсе нашы сьвятыя з XII в. і пачатку XIII в., якія ўважаліся крыху большымі за мяйсцовых сьвятых, прызнаны так-жа каталіцкімі сьвятымі. У Рымскім Мартыралёгіёне іхных імёнаў не ўспамінаецца, падобна як не ўспамінаецца шматлікіх усходніх сьвятых нават з першых вякоў, бо даўней так на Захадзе, як і на Усходзе сьвятцы запаўняліся перадусім сваімі сьвятымі, а з суседніх Царкоў упісваліся толькі больш ведамыя сьвятыя. Толькі калі кананізацыю сьвятых пачалі праводзіць паводля спэцыяльных прыпісаў, ад тады ўсіх кананізаваных сьвятых пачалі ўпісваць у Рымскі Мартыралёгіён.

Калісь у часопісе «Крывічанін» Нр. 1 з 1918 г. была надрукавана дробная зацемка, што быццам сьв. Еўфрасіня мела быць урачыста кананізаваная папаю Рыгорам X на другім Ліёнскім

саборы ў 1274 г. Цяжка сказаць, адкуль аўтар гэнае зацемкі ўзяў гэты факт, бо вестак з другога Ліёнскага Сабору захавалася вельмі мала.

На Саборы быў кананізаваны архіяп. Эдмунд Контуарыйскі; аб Еўфрасіні не ўспамінаецца ні слова. Магчыма, што аўтар зацемкі проста пераблытаў сьв. Еўфрасіню Полацкую з яе пазьнейшаю наступніцаю ў манастыры сьв. Спаса сьв. Параскеваю Полацкаю, якую праўдападобна меў кананізаваць папа Рыгор X у 1273 г. Канчаткова гэтую справу можна было-б выясьніць у Ватыканскіх архівах. Спробы ў гэтым кірунку рабіліся ,але да ніякіх пажаданых вынікаў не давялі, бо ватыканскія архівы з XIII веку некамплетныя.

Аднак факт астаецца фактам, што сьв. Еўфрасіня паводля векавое традыціі прызнаная сьвятою ў Каталіцкай Церкве і ў сучасных літургічных рымскіх выданьнях для Усходняе Кат. Царквы яна ўпісана на сваім мейсцы.

Варта аднак зацеміць, што украінскія грэкаталіцкія літургічныя кнігі не ўспамінаюць сьв. Еўфрасіні падобна, як і іншых беларускіх сьвятых з XII веку, бо яны для Украіны рахаваліся чужымі. Толькі апошнімі гадамі ў некаторых папулярных выданьнях жыцьцяў сьвятых, напр., «Садочек українских святих» знайходзіцца жыцьце сьв. Еўфрасіні, аднак таму, што гэтая папулярызацыя ня годзіцца ані з літургічнымі кнігамі іхняга выданьня, ані з іхнымі гістарычнымі традыцыямі, дык такія спробы расцэньваюцца толькі, як «жаданьне ўваскрасіць замёршую памяць», бо самае прызнаньне сьвятасьці Еўфрасіні было ў гр.-кат. Царкве з найдаўнейшых часоў.

Агулам ува ўсёй Каталіцкай Царкве, што да сьвятасьці Еўфрасіні Полацкае ніхто не падымае ніякіх засьцярогаў.

# Рэлігійныя адносіны на Беларусі ў XII в.

Прызнаньне сьвятасьці прэпадобнае Еўфрасіні Полацкае ды іншых беларускіх сьвятых з XII в. так у праваслаўнай, як і ў каталіцкай Царкве мае для нас аграмаднае значэньне. Гэта зьяўляецца выявам духу аднаго з важных стагодзьдзяў нашае гісторыі.

Аднак гэты факт вымагае некаторых выясьненьняў, бо падзел Царкоў праз доўгія вякі вытварыў ў народных масах пагляд, які атоесамлівае лацінскі абрад з каталіцтвам, а ўсходні — з праваслаўем. Дзеля гэтага прызнаньне беларускіх сьвятых усходняга абраду ў каталіцкай Царкве для некаторых можа быць незразумелым. Але затое стане ясным, калі прыпомнім, што сёньня ў каталіцкай Царкве акрамя лацінскага абраду ёсьць аж 14 розных усходніх абрадаў з некалькімі мільёнамі вернікаў. Трэба толькі перанесьціся думакаю ў часы да падзелу Царкоў, каб пераканацца, што і раней ня было іначай. Першымі славянскімі апосталамі агульна ўважаюцца сьвятыя браты Кірыла і Мяфод, якія хоць і прыйшлі з Візантыі і пашыралі хрысьціянства ўсходняга абраду, але залежалі ад Рыму і нават сьв. Мяфод атрымаў біскупскае сьвячаньне з рук папы Івана VIII. Вучні гэтых сьвятых братоў разыйшліся потым з Маравіі па ўсіх суседніх славянскіх краінах. Пад уплывам іхняе пропаведзі адбывалася афіцыяльнае прыняцьця хрысьціянства. Усходнія славяне, значыць і Беларусы прынялі хрысьціянства ў X-м веку — вось-жа перад падзелам Царкоў, які стаўся ў 1054 г. Як глязелі на гэты

падзел беларускія князі? Яны ведалі добра ганарлівасьць візантыйскіх імпэратараў і гэтак-жа добра ведалі аб розных непаразуменьнях Візантыі з Рымам, таму і падзел Царкоў уважалі за хатняе непаразуменьне між візантыйскім і рымскім валадарамі, якое ўжо здаралася няраз раней.

Дзеля гэтага хрысьціянства на Беларусі пашыралася пасьля падзелу Царкоў, так як і раней. На багаслужэньнях і далей успаміналіся і папа рымскі і патрыярх візантыйскі. І далей распаўсюджваліся жыцьцяпісы рымскіх сьвятых; асабліва жыцьцё Аляксея чалавека Божага. У суседнім Ноўгарадзе залічаецца ў лік сьвятых Антоній Рымлянін († 1147), які прышоў з Рыму ў 1106 г.

Агулам тагачасныя народныя масы ня бачылі ніякае істотнае розьніцы між усходнім і заходнім хрысьціянствам. Ноўгарадзкі сьвятар Кірык у сваіх «Запытаньнях» з XII в. найвыразьней кажа, што тамтэйшыя жанчыны носяць сваіх дзяцей да хросту бяз розьніцы ці да сваіх, ці да вараскіх (лацінскіх) сьвятароў. Няма сумніву, што ў нас ня было інакш. У нас выразна архірэяў называлі біскупамі, як гэта бачна з напісу на крыжы сьв. Еўфрасіні. Да таго, як сьведчыць расейскі дасьледнік жыціяў сьвятых Г. Федотов, пашану да сьвятых князёў Русь пераняла з захаду, «нават рымска-нямецкага Захаду, з ягоным культам сьвятых каралёў і фэадальных рыцараў. І гэта ёсьць адною з шматлікіх зьяваў, якія паказваюць на духовую блізіню старое Русі з Захадам». Варта падчыркнуць, што так кажа праваслаўны гісторык.

На доказ праўдзівасьці гэтага цьверджаньня можна прывесьці шмат фактаў.

Акрамя вышэй пералічаных можна ўспомніць такія агульна ведамыя факты, як: прыняцьце сьвята перанясеньня мошчаў сьв. Міколы (9-V), устаноўленага ў 1089 г. папаю Урбанам II; выбар у 1147 г. на мітрапаліта ўсяе Русі Кліма Смаляціча бяз згоды Візантыйскага Патрыярха і багаслаўленьне гэтага мітрапаліта мошчамі сьв. Клімэнта

папы. Праф. Паўлоў у «Византійским Временнику» з 1879 г. падае цікавы апіс аднаго «Номоканона» з XII в., дзе пасьля 28 канона Халкідонскага Сабору славянскі перапішчык заўважвае, што гэты канон ня быў прызнаны блажэнным папаю Львом I ĭ таму ня мае сілы, а далей даказвае пяршынства рымскага архірэя.

Калі гэтыя факты аб прыязных адносінах да рыма-каталіцызму ў XII в. супольныя для ўсіх усходніх славянаў, дык Беларусь з гэтага гледзішча асабліва вырозьнівалася. Летапісы ўсіх тагачасных полацкіх князёў называюць «захаднікамі». Калі да полацкага князя Уладзімера ў 1186 г. зьявіўся нямецкі місыянар Майнгард, каб атрымаць дазвол на місыйную працу між Ліваў, якія тады былі ў залежнасьці ад Полацку, дык ня толькі атрымаў гэты дазвол, але яшчэ быў шчодра ўзнагароджаны рознымі дарункамі, аб чым не забыўся ўспомніць у сваёй хроніцы Гэнрык Латыскі. Нажаль брэменскія купцы, якія йшлі сьледам за Майнгарадам, пачалі гнобіць наверненых Ліваў і выклікалі незадаваленьне і бунт, для здушаньня якога прыехалі крыжакі, а з імі прыехала няшчасьце на доўгія стагодзьдзі. Насьледкі гэтага няшчасьця ня выдыхаліся і да сёньняшняга дня. Аднак гэтыя пагубныя ўплывы, якія спрычыніліся да вытварэньня варожасьці да Захаду, запачатваваліся ў XIII в., а мы вяртаемся яшчэ да XII в., з якога маем найбольшы лік беларускіх сьвятых.

У тым часе прыязныя адносіны полацкіх князёў да каталіцкага Захаду былі чымсьці самазразумелым: нават у візантыйскім імпэратарскім двары тады часта пераважваў заходніцкі курс. Бальшыня візантыйскіх імпэратараў XII в. часта ўзнаўлялі перагаворы з Рымам аб паеднаньні. Нашы князі аб гэтым добра ведалі, бо нейкі час самі былі ў Візантыі. З гэтага гледзішча асабліва вызначаўся Мануіл Комнэн (1143-1180), які веў ажыўленыя перагаворы з папаю Аляксандрам III аб паеднаны. Асабліва ў гадох 1166/67 (якраз падчас паломніцтва сьв. Еўфрасіні ў Ерузалім)

было напісана шмат лістоў у справе ажыцьцяўленьня паеднаньня Царкоў, якое мела стацца ў 1167 г. Пры гэтай нагодзе папа меў прызнаць Мануілу тытул рымскага імпэратара і каранаваць яго. Тагачасны візантыйскі патрыярх Лука Хрызоверг (1156-1169) так-жа ня быў супраць пагадненьня. Але розныя праекты супольных крыжовых паходаў і супольных войнаў крыжавалі гэтую справу і адкладалі яе з дня на дзень, а тым самым і абцяжвалі яе да немагчымасьці ажыцьцяўленьня. Аднак самыя стараньні мелі жывое рэха і на Беларусі праз перапіску сьв. Еўфрасіні з імпэратарам і патрыярхам.

Ці можа пасьля гэтага быць дзіўным, што ў гэткіх абставінах у жыцьцяпісах беларускіх сьвятых з XII в. няма найменшае азнакі няпрыхільнасьці да Рыму? Наадварот ёсьць нядвузначныя сьляды прыхільнасьці і пашаны.

Аб настроях і думках сьв. Еўфрасіні ўжо гаварылася ня раз — гэтыя настроі мусілі быць такія, якія бачым у полацкіх князёў, бо яна была іхняю дарадніцаю. А настроі гэтыя былі такія, што падыктавалі летапісцам назваць полацкіх князёў захаднікамі.

Аб думках сьв. Кірылы Тураўскага сьведчаць ягоныя казаньні, між якімі ёсьць адно аб сьв. Клімэнце папе рымскім, вельмі прыхільнае да каталіцызму. Такім-жа мусіў быць і сьв. Лаўрын — жыцьцяпісец сьв. Кірыла.

Сьв. Аўрам Смаленскі, памёр на пачатку XIII в., але ён вырас з атмасфэры XII в. і таму яго можна залічыць да супольнае групы. Ён штодзень правіў Службу Божую паводля заходняга звычаю і вельмі вызначаўся культам да сьвятое Эўхарыстыі. Сьв. Ігнат, субяседнік сьв. Аўрама, напэўна йшоў сьлядамі свайго вялікага субяседніка.

Агулам варта зазначыць, што на абшары Беларусі ў XII в. ня было ніякае літаратуры варожае да заходняга хрысьціянства, відаць дзеля таго, што ня было да гэтага адпаведнага грунту. Гэтая

адсутнасьць палемічнае літаратуры ў тым часе, калі ў суседняй Украіне грэцкія мітрапаліты выступалі ўжо некалькі разоў супраць «латынян», ня ёсьць прыпадкавым зьявішчам. Не памылімся, калі скажам, што рэлігійны супакой ёсьць істотнаю беларускою азнакаю духу гэтае эпохі. Варта толькі прыпомніць зацемку з жыцьцяпісу сьв. Еўфрасіні, як яна не шкадвала стараньняў, каб гадзіць пасвараных князёў, баяраў і купцоў, каб у гэтай годчай дзейнасьці беларускае сьвятое ўбачыць выяў яе нутраната настрою. Гэткім-жа годчым духам бы прасякнуты і сьв. Кіралы Тураўскі — верны вучань сьв. Івана Залатавустага.

У гэтым супакою Беларуская Царква пераживала адну з найпрыгажэйшых старонак свае гісторыі і таму гэты век заслугоўвае на асаблівую ўвагу ўсіх дасьледнікаў беларускага рэлігійнага жыцьця.

# ПАТРОНКА БЕЛАРУСІ.

Даўней ня толькі кожная краіна, але нават кожны горад, кожная арганізацыя, а рыцары дык кожны з асобна мелі сваіх нябесных апякуноў-патронаў. Гэты пабожны звычай яшчэ ў сіле і сёньня хоць і не ў такой ступені, як калісь. Сёньня кожная хрысьціянская краіна мае аднаго або некалькі сьвятых, якіх уважае за сваіх нябесных заступнікаў перад абліччам Усявышняга. Асабліва ў тых цяжкіх мамэнтах, калі краіна адчувае, што яе дачасныя сілы і дачасныя апякуны зьяўляюцца недастатковымі, народ зьвяртаецца да сваіх нябесных апякуноў з мольбамі аб помачы.

Паводля гэтага агульнага звычаю і Беларусь з даўных давён мела некалькі сваіх нябесных сьвятых апякуноў-патронаў: сьв. Еўфрасінью-Прадславу Полацкую, сьв. Параскеву Полацкую і сьв. Казімера. З бегам часу культ сьв. Казімера на Беларусі пашырыўся толькі між рыма-каталіцкім насельніцтвам, набіраючы асаблівага характару ў Віленшчыне і Лідчыне. Аднак і там сьвята Казюка сталася больш кірмашовым днём.

Культ сьв. Параскевы быў калісь вельмі пашыраны па ўсёй Беларусі; з дазволу духоўнае ўлады яе ўсюды лічылі патронкаю краю. Аднак таму, што дзень яе памяці сьвяткаваўся таго самага дня, што і сьв. Параскевы званае Пятніцаю (яна была замучаная ў 290 г. у Іконіі падчас праСьледаваньня Дзіокліціяна) дзеля гэтага пасьля скасаваньня Уніі расейскія ўлады лёгка змаглі перанесьці культ сьв. Параскевы Полацкае на асобу сьв. Параскевы Пятніцы, культ якое і сёньня вельмі пашыраны на Беларусі, а сьв. Параскева Полацкая мала дзе ўспамінаецца.

Культ сьв. Еўфрасіні, як аб гэтым гаварылася раней, таксама не заўсёды быў на аднолькавым

узроўні, што аднак для нас важна, дык гэта тое, што яна з найдаўнейшых дзён і аж да сёньня заўсёды лічылася галоўнаю патронкаю Беларусі, як аб гэтым успамінае а. Іван Мартынаў у сваім творы (пісаным палаціне) «Царкоўны грэка-славянскі год» на стр. 138.

Нельга дакладна азначыць дату, ад калі беларусы пачалі ўважаць сьв. Еўфрасіню патронкай краю, але можна дагадвацца, што гэта сталася ад самага пачатку яе культу на Беларусі. Выбіраючыся ў Ерузалім, сьв. Еўфрасіня пацяшала сваіх суродзічаў, што не пакідае іх, але йдзе маліцца за іх. Гэтыя разьвітальныя словы глыбока запалі ў душы палачан. Жывой сьв. Еўфрасіня з Ерузаліму не вярнулася; нават яе мошчы доўгія стагодзьдзі аставаліся на чужыне — таму ўвайшла ў сілу і ў векавую традыцыю яе абяцанка: маліцца за родны край. Сама сьвятая ўзяла на сябэ гэткі абавязак. Хораша кажа аб гэтым Н. Зорин у сваім творы: «Минувшее и настоящее г. Полоцка», што «Нябесная Апякунка Беларускага Краю сьв. княжна Еўфрасіня паводля слоў паэта

Шматпакутны вобраз айчыны далёкай
Захоўвае вечна у мроях глыбока. (стр. 39)

Пасьля ўпадку беларускае дзяржаўнасьці ўсе акупацыйныя ўлады, якія па чарзе зьмяняліся на Беларусі сваею рэлігійнаю палітыкаю паважна прычынілася да заняпаду рэлігійнага жыцьця на Беларусі. Гэта ў сваю чаргу адбілася вельмі не карысна на кульце сьвятых роднага краю; некаторыя зусім пайшлі ў няпамяць, іншыя ўспаміналіся толькі ў некаторых ваколіцах. Калі-ж настаў час беларускага адраджэньня, дык адраджэнскі рух хутка пашырыўся так-жа на беларускай рэлігійнай ніве. З гэтага часу датуецца сьціплая, але вельмі важная зацемка ў часопісе «Крывічанін» Нр. I з 1918 г. на стр. 16, якая быццам аднаўляла старыя традыцыі, кажучы: «Ня ўсім ведама, што патронкай Беларусі зьяўляецца сьв. Еўфрасіня-Прадсалва княжна Полацкая ігуменя

манастыра сьв. Спаса...» Пасьля 32 г., калі быў напісаны гэты сказ, шмат зьмянілася ў беларускім грамадзкім і рэлігійным жыцьці. I зьмянілася ў тым кірунку, што цяпер на чэсьць сьв. Еўфрасіні, як патронкі Беларусі будуюцца беларускія сьвятыні нават на эміграцыі, яе сьвяты абраз штораз часьцей красуецца на беларускіх нацыянальных сьцягох, імя яе вымаўляецца з пабожнай пашанай, а яе асоба зьзяе, як будуючы прыклад хрысьціянскага жыцьця.

Для закранутае тут тэмы варта зацеміць, што ўканцы XIX стаг. і асабліва між першаю і другою сусьветнымі войнамі ў Зах. Беларусі польскія ўлады рабілі шмат стараньняў, каб пашырыць культ сьв. Андрэя Баболі, як патрона Беларусі. Відаць з гэтаю мэтаю перанесьлі сьвяткаваньне ягонае памяці на 23 травеня — актаву ягонае сьмерці 16-V, аб чым зазначана ў кананізацыйным дэкрэце. Аднак таму, што гэтыя стараньні найчасьцей праводзіліся такім чынам, быццам асобаю сьвятога мучаніка меўся асьвяціць палянізацыйны наступ на Беларусь—вынік іх быў зусім адваротны да таго, які сабе намецілі нашы суседзі. На Беларусі сьв. Андрэй Баболя ўважаўся патронам Польшчы. У беларускіх рыма-каталіцкіх календарыюмах ягоная памяць успамінаецца 16-V бяз ніякіх азначэньняў.

Гэткім чынам сёньня астаецца адзіная сьв. Еўфрасіня-Прадслава, як нябесная патронка Беларусі. Для народу гэты факт тымбольш важны, што яна прызнаная сьвятою і ў Каталіцкай і Праваслаўнай Царкве. Да таго яе постаць на толькі велічная і крыштальна-чыстая, што нават бязбожнікі вышукваючы розныя закіды супраць усходнеславянскіх сьвятых у кнізе Паозерскага «Русские святые перед судом истории» не знайшлі ў асобе сьв. Еўфрасіні ніякае прыдзіркі ані плямы.

Калісь Фр. Багушэвіч паясьняючы назоў нашага краю, гаварыў, што Беларусь у сваёй гісторыі ёсьць бездакорна чыстаю. Такою-ж ёсьць наша нябесная патронка.

# МОШЧЫ СЬВ. ЕУФРАСІНІ

## Перанясеньне з Ерузаліму.

Ня менш цікавым, як жыцьцё сьв. Еўфрасіні, ёсьць гісторыя яе сьв. мошчаў.

Хутка пасьля сьмерці сьв. Еўфрасіні для Ерузаліму настал неспакойныя часы. Туркі пачалі пагражаць Сьвятой Зямлі. Шматлікія манахі, якія тады знайходзіліся ў Ерузаліме, перад турэцкаю небясьпекай стараліся заўгадзя пакінуць сьвятое места. Незадоўга перад гэтым замяшаньнем мошчы сьв. Еўфрасіні на некі час былі перанесены з Тэадозіявага манастыра ў манастыр а.а. Кармэлітаў. Аб гэтам факце знайходзіцца кароткая зацемка ў Папэброхія. Кармэліты прынялі Полацкую сьвятую за сьв. Еўфрасіню Александрыйскую дачку Пафнуція і ўпісалі яе ў свае літургічныя кнігі.

Нядоўга аставаліся сьвятыя мошчы прэпадобнае ў а.а. Кармэлітаў, бо ўжо ў 1187 г. турэцкі султан Салядын займае Ерузалім. Магамэтанская ўлада варожа адносілася да хрысьціянства, але на пачатку было дазволена хрысьціянам спакойна выязджаць з Палестыны і забіраць з сабою свае сьвятасьці. З гэтага скарысталі ўсходня-славянскія манахі і выехалі з Ерузаліму, забіраючы, як вялікі скарб нятленныя рэшткі сьв. Еўфрасіні.

Як і калі перабралі яны мошчы ад а.а. Кармэлітаў ніякіх вестак няма.

Манахі мелі немер перанесьці мошчы проста ў Полацк, як аб гэтым сьведчыць народны пераказ. У гэтым падарожжы яны мелі ўжо даехаць аж да Турава, але тагачасныя варожыя адносіны

між кіяўскімі і полацкімі князямі мелі перашкодзіць далейшаму падарожжу. Манахі вярнуліся ў Кіяў і палажылі сьв. мошчы у Дальных Пячорах Кіяўскага Пячэрскага манастыра пры царкве Дабравешчаньня. Там сьвятыя мошчы спачывалі доўгія вякі ў сярэбранай дамавіне. Крышка дамавіны была адчынена і прымацавана к сьцяне, а мошчы закрытыя пакрываламі. У галавах знайходзіўся абраз сьвятое і перад ім заўсёды гарэла лямпадка.

Можна дагадвацца, што манахі, едучы з Ерузаліму, зразу затрымаліся ў Кіяве і далей не прабавалі йсьці, бо ў тым часе, калі адбывалася гэтае падарожжа, гэта значыць пасьля 1187 г. на Украіне і ў паўдзённай Беларусі былі вельмі неспакойныя часы. Нядаўна перад тым у 1185 г. Полаўцы разьбілі злучаныя дружыны Северскіх князёў на чале з Ігарам Сьвятаславічам; гэтую сумную падзею ўславіў аўтар несьмяротнае паэмы «Слова аб палку Ігараве». Пасьля гэтага Полаўцы доўга непакоілі Украіну і паўдзённую Беларусь. У Полацку ў тым часе княжыў Уладзімер Валадаравіч (1180-1217), княжаньне яго было параўнаўча спакойным, таму калі-б манахі маглі дайсьці да Турава, напэўна дайшлі-б і да Полацку. Аднак факт астаецца фактам, што мошчы асталіся ў Кіяве.

Некаторыя выдатныя царкоўныя гісторыкі ўжо даўно былі зьвярнулі ўвагу, што нават у найдакладнейшых апісаньнях Кіява-Пячэрскае Лаўры нічога ня кажацца аб тым, якім чынам і калі перанесены туды мошчы сьв. Ефрасіні. Гэта магчыма выясьняецца тым, што мошчы былі там прымешчаны толькі да часу і толькі пераходам, як гэта выходзіла-б з успомненага вышэй пераказу.

## Стараньні перанясеньня ў Полацк.

Доўга аставаліся нятленныя мошчы сьв Еўфрасіні ў Кіяве. На гэта зложылася шмат гістарычных прычын.

Дробныя войны ўдзельных князёў XII в., ў XIII в. замяніла татарская небясьпека. Беларусі татары не занялі, але часам заходзілі даволі глыбока на беларускія абшары. У страху перад татарамі каля 1234 г. манастыр сьв. Спаса апусьцеў. Тагачасная ігуменя сьв. Параска Полацкая пераехала аж ў Рым і там памерла ў 1239 г., ды залічана папаю Рыгорам X у лік сьвятых.

Манастыр доўга пуставаў, таму аб пераносе не магло быць і гутаркі. Потым, калі зноў зьявіліся манашкі ў манастыры сьв. Спаса, Беларусь перажывала паважны рэлігійны заняпад, а да гэтага ад XVI в. далучаюцца амаль бесперарыўныя войны з Маскоўшчынаю. У 1563 г. Полацк займае Іван Грозны; усё багацьцё з манастыра сьв. Спаса, як агулам з Беларусі, вывозіцца ў Маскву манастыр пусьцее зноў.

У 1580 г. Сьцяпан Батура выганяе расейскія войскі з Полацку, але манастыр сьв. Спаса ў Сяльцы з усімі маемасьцямі аддае езуітам.

У XVIII в. беларускія ўніяцкія мітрапаліты ня раз стараліся узнавіць манастыр сьв. Спаса, але іхняе палажэньне пагоршвалася з дня на дзень і таму не змаглі ажыцьцявіць сваіх намераў.

У 1821 г. расейская ўлада выганяе езуітаў з межаў сваее імпэрыі; царкву сьв. Спаса разам з манастырскімі маемасьцямі перадаюць у рукі піяраў, але ўсяго на некалькі год, бо ўжо ў 1832 г. манастыр з усёю маемасьцю перадаецца кадэцкаму корпусу, а царкву сьв. Спаса замяняецца на праваслаўную і 7-VIII-1833 г. перасьвячваецца. У 1835 г. пераносіцца ў Полацк праваслаўная епархія і пераймае ад кадэцкага корпусу манастырскую маемасьць і ў 1840 г. у Сяльцы адчыняецца праваслаўны жаночы манастыр.

Ад гэтага часу палажэньне манастыра сьв. Спаса быццам усталявалася, аднак доўгі час ня было гутаркі аб пераносе мошчаў у манастыр сьв. Еўфрасіні. Калі потым распачаліся такія стараньні, расейскія ўлады катэгарычна гэтаму супрацівіліся. Толькі ў 1870 г. 28-XI на стараньне

полацкага праваслаўнага яп. Саввы і з дазволу Сьвяцейшага Сыноду кіяўскі мітр. Арсеній перaслаў у Полацк сярэдні палец правае рукі сьв. Еўфрасіні. Гэтая частка мошчаў 23-V- 1871 г. была прымешчана ў Прэабражэнскай царкве Спаскага манастыра ў Сяльцы.

Супраць пераносу ўсіх мошчаў сьв. Еўфрасіні яшчэ ў 1909 г. падымаліся шматлікія ўрадавыя расейскія галасы пераважна такога зьместу: «...Каталікі, як ведама з гісторыі, схільны прызнаць прэп. Еўфрасіню сьвятою свае царквы. Таму можна нават баяцца, каб дзеля плянаванага пераносу мошчаў прэп. Еўфрасіні з Кіява ў Полацк, ня спрычынена вялікіх няпрыемнасьцяў і шкодаў для праваславія». (Титов «Труды Кіевской Дух. Акад.», т. IV, 1910 г., стр. 544.).

## Перанясеньне мошчаў у Полацк.

Не зважаючы на розныя перашкоды рэлігійнага і палітычнага характару з боку расейскіх уладаў, Беларусь не магла забыцца аб мошчах свае патронкі і пры кожнай нагодзе так з Полацку, як і з іншых мест Беларусі ішлі просьбы да духоўных уладаў аб пераносе мошчаў сьв. Еўфрасіні з Кіява ў Полацк.

Гэтыя просьбы вельмі ажывіліся і памножыліся пасьля таго, як на Кіяўскім Місійным Зьезьдзе, ў якім удзельнічала 30 праваслаўных ерархаў і каля 300 сьвятароў, была падтрымана думка аб пераносе мошчаў сьв. Еўфрасіні ў Полацк. Тады па ўсёй Беларусі на зьездах духавенства і вернікаў рабілі пастановы і пасылаліся просьбы ў Сьвяцейшы Сынод аб перанясеньні мошчаў сьв. Еўфрасіні. Тагачасны полацкі яп. Серафім так-жа далучыўся да агульнага голасу.

Сьвяцейшы Сынод уканцы ня меў іншага выхаду, як прэдставіць цару ўсе гэтыя просьбы і гэтым разам цар згадзіўся даць дазвол на перанос. Уласьціва няма чаго дзівіцца такой асьця-

рожнасьці расейскіх уладаў адносна асобы сьв. Еўфрасіні. Яны-ж дакладна здавалі сабе справу з таго, што маюць дачыненьне з «нябеснаю апякункаю Беларусі», як гэта часам зазначалася ў тагачаснай расейскай прэсе, хоць афіцыяльна гэтая-ж прэса мусіла ўнікаць слова Беларусь і магла гаварыць толькі аб «Полацкім краю».

Даючы дазвол на перанос мошчаў, адначасна была распачатая прапаганда, каб гэтая ўрачыстасьць сталася «умацаваньнем праваславія ў Полацкім краю і важным дзейнікам у барацьбе праваславія з каталіцтвам» (Титов, усп. твор, стр. 453.).

Праграма і плян урачыстасьцяў быў апрацаваны наперад з найбольшыю магчымаю дакладнасьцю. Урачыстасьці пераносу мошчаў мелі працягвацца ад 10-га красавіка да 22-га траўня 1910 г.

Дзеля перавозу мошчаў сьв. Еўфрасіні былі прызначаны два дзяржаўных караблі: «Головачов» і «Кіев», першы для самых мошчаў, а другі для суправаджаючых асобаў.

Паводля намечанае праграмы і пляну адбываліся ўрачыстасьці пераносу сапраўды з нячуванаю веліччу. Тагачасная прэса падавала дакладныя апісаньні гэтых урачыстасьцяў і вялікая шкода, што разьмеры гэтае працы не дазваляюць зьмясьціць тых апісаньняў. Коратка можна сказаць, што нятленныя рэшткі сьв. Еўфрасіні былі вынесены з Кіява суправаджаныя найбольшымі рэлігійнымі ўрачыстасьцямі, якія агулам былі магчымыя. Па дарозе з Дальных Пячэраў да Дняпра абапал дарогі былі пастаўлены вайсковыя шпалеры. Тагачасная расейская ўлада і Царква аддавалі сьв. Еўфрасіні сапраўды царскія почасьці. Відаць Божы правід паказаў, што сьвятая полацкая княжна і сьціплая ігуменя Спаскага манастыра, як нябесная патронка Беларусі, ёсьць годная гэтых почасьцяў.

Па Дняпры караблі з мошчамі сьв. Еўфрасіні праплылі 695 вёрст, затрымоўваючыся па дарозе ў гарадох: Рэчыцы, Рагачове, Старым Быхаве,

Магілёве і Оршы. Далей аж да Полацку перавозілі мошчы сухапуцьцем, а да манастыра сьв. Спаса зноў у караблі па р. Палоце.

Усё падарожжа суправаджалася багаслужэньнямі падчас затрымак. Увесь шлях, кудэю правозілі мошчы, абступалі аграмадныя натаўпы вернікаў. Варта ўвагі, што ў гэтых урачыстасьцях удзельнічалі вялікія расейскія князі і княгіні, між імі была нават родная сястра царыцы, а вялікі князь Канстанцін рэпрэзэнтаваў самога цара — гэты факт кажа сам за сябе, якое вялікае значэньне прыпісвалі расейскія ўлады да пераносу мошчаў сьв. Еўфрасіні.

І так пасьля 743 гадовае разлукі, у дзень яе сьвята 23-га травеня 1910 году, манастыр сьв. Спаса ўжо ў зусім адменных умовах, як калісь, вітаў нятленныя рэшткі сваее першае ігумені. З урачыстымі багаслужэньнямі пры аграмадным наплыве вернікаў з далёкіх куткоў Беларусі і з удзелам шматлікага духавенства і прадстаўнікамі царскага расейскага ўраду мошчы сьв. Еўфрасіні пастаўлена ў царкве сьв. Спаса ў вялікай дамавіне між калёнамі раўналегла да іканастасу.

## Далейшая доля мошчаў сьв. Еўфрасіні.

Нядоўга асталіся ў супакою нятленныя мошчы сьв. Еўфрасіні ў Спаскай царкве. Відаць, што сьвятая мусіла падзяліць цярпеньні роднага краю.

Хутка пасьля выбуху вялікае кастрычніцкае рэвалюцыі бязбожная рука пачала ганьбіць сьвятыя мейсцы і агулам усё сьвятое. І вось дня 7-га ліпеня 1922 г. у «Віцебскіх Ізвесьціях» Нр. 127 зьявіўся артыкул: «Полацкія курсанты аб мошчах сьв. Еўфрасіні». Артыкул пачынаўся: «Мы, курсанты, чырвонаармейцы і камандны склад кадраў...» (Цытую паводля «Пшэглёнду Повшэхнэго» з 1927 г. стр. 74.). Далей гаварылася ў артыкуле, што яны аглядалі мошчы сьв. Еўфрасіні і што ў дамавіне знайшлі толькі струхлелыя косьці. Што з

гэтымі «касьцямі» зроблена, у артыкуле не гаворыцца. Потым у прынагадных гутарках з палачанамі можна было даведацца, што дамавіну сьв. Еўфрасіні разам із спрафанаванымі мошчамі перанесьлі ў музэй. Дзе яна сёньня? У сучасных абставінах цяжка даведацца. Аднак трэба спадзявацца, што дзеля малітваў і заступніцтва сьв. Еўрасіні, хутка прыдзе час, калі праўда выйдзе на дзённае сьвятло.

# ЦУДЫ СЬВ. ЕЎФРАСІНІ

Хоць і не абавязкава, але вельмі часта сьвятасьць людзей выяўляецца навонках над'звычайнымі ўчынкамі, якія перавышаюць прыродныя людзкія магчымасьці і называюцца цудамі. У сучаснай царкоўнай практыцы для залічэньня ў лік сьвятых вымагаецца побач гэройскіх цнотаў падчас дачаснага жыцьця сьвятога, яшчэ два цуды ўчыненыя дзеля заступніцтва данага сьвятога. Аднак нельга думаць, што цуды гэта істотная азнака сьвятасьці. Ёсьць аграмадная колькасьць сьвятых, напрыклад мучанікаў за часоў першага хрысьціянства, з імёнамі якіх ня зьвязаны ніводзін цуд. Істотнаю азнакаю сьвятасьці чалавека ёсьць гэройская цнота ў дачасным жыцьці, а цуды уважаюцца Божым знакам для выяўленьня гэтае цноты.

Сьвятасьць Еўфрасіні Полацкае выяўлялася перадусім у паважным ушляхотнюючым уплыве на асяродзьдзе, у якім жыла, і на агульнаграмадзкае жыцьцё. Аднак і цудаў не пашкадаваў Бог, каб уславіць яе.

У жыцьцяпісе сьв. Еўфрасіні апавядаецца толькі пра два цудоўныя здарэньні; абодва зьвязаныя з будоваю царквы сьв. Спаса. Першае — гэта закліканьне будаўнічага Івана, каб сьпяшаўся з будоваю царквы; другое — гэта цудоўнае памнажэньне цэглы для заканчэньня царквы. Аб абодвых гэтых здарэньнях ужо апавядалася раней падчас апісаньня жыцьця сьв. Еўфрасіні.

Звычайна найбольш цудадзейную сілу выяўляюць сьвятыя пасьля свае сьмерці і вялікую ролю пры гэтым маюць мошчы. Відаць дзеля таго, што цела сьв. Еўфрасіні знайходзілася далёка на чужыне і ў пашы-

рэньні яе культу было шмат перашкодаў гістарычна-дзяржаўнага характару, дык яна ня ўславілася цудамі і па сьмерці. Яе ніколі не называлі цудатворцаю. Аднак дзякуючы яе заступніцтву цуды дзеяліся, толькі няма вестак, ці хто да гэтага часу займаўся рэгістрацыяю гэтых цудаў.

Карыстаючы з прыпадкавых вестак даведваемся, што адно такое цуда сталася падчас пераносу мошчаў сьвятое з Кіява ў Полацк. Гэтае цуда было дакладна прасьледжана і навукова сьцьверджана. Весткі аб ім падае сябра Віцебскае Навуковае Камісіі Нест. Кайгородоў і д-р мэд. А. М. Мансветаў — абодва асабіста займаліся справаю цудоўнага аздараўленьня чарніцы Н. (поўнага імені чамусьці не падаюць). Успомненая чарніца Н. Спаса-Еўфрасінінскага манастыра ў Сяльцы доўгі час хварэла на круглы верад страўніка, часта мела страўнікавыя крывацечы і ваніты з крывёю, дзеля гэтага была вельмі высназаная і абясьсіленая. Узімку 1910 г. яна заўсёды была ў ложку, ледва магла падымацца, аджыўлялася толькі вадкаю страваю і ўканцы ўжо хвароба так даймала, што болі страўніка даводзілася сунімаць наркотыкамі. Агульны стан здароўя пагоршваўся з дня на дзень і д-р А. Мансветаў ня меў надзеі на яе аздараўленьне. Вясною 1910 г. перад унясеньнем мошчаў сьв. Еўфрасіні ў Полацк лекар стараўся падбадзёрыць хворую і зрабіў ёй два ўколы спэрніна праф. Пэля, але ад гэтага хворай ня было ніякага паляпшэньня і 19 травеня яна ледва-ледва магла ўзьняцца ў ложку, наракала на галавакружэньне, ацёк у нагах, на слабасьць, болі, ваніты з крывёю і на пороле́жні.

Калі 22 травеня прынесена мошчы сьв. Еўфрасіні з Полацку ў Сялец і пастаўлена іх ува Узьдзьвіжанскай царкве, тады пасьля ўсяночнае аграмадныя натаўпы вернікаў доўга пачарзе цалавалі мошчы сьвятое. Хворая чарніца Н. так-жа захацела ўшанаваць мошчы сьв. Еўфрасіні і прасіла, каб яе завялі ў царкву. Дзьве сястры чарніцы выканалі яе просьбу і пасьля кароткае малітвы за хворую ўзьнялі яе на памост, дзе зна-

ходзіліся мошчы, і хворая прысланілася да мошчаў і пацалавала руку сьв. Еўфрасіні. У гэткім палажэньні яна затрымалася колькі хвілін непарушна і сагнуўшыся. Раптам хворая пачула ў сабе якуюсьці нязвычайную сілу і бадзёрасьць, сама ўзьнялася і выпрасталася бяз усякае помачы сясьцёр і сама зышла з памосту, на якім знаходзіліся мошчы і сама вышла з царквы, славячы Бога і сьв. Еўфрасіню за цудоўнае аздараўленьне ад доўгатрывалае хваробы.

Вестка аб гэтым хутка разьнеслася па ўсёй ваколіцы. Д-р Мансветаў даведаўшыся аб аздараўленьні наступнага дня (23 травеня) прышоў у манастыр, каб навочна пераканацца аб праўдзівасьці здарэньня. Калі ён увайходзіў у манастыр, яму на сустрэчу бегла ягоная ранейшая безнадзейна хворая пацыентка чарніца Н.; ніякіх азнакаў хваробы ў яе ўжо ня было. Д-р Мансветаў дадае, што гэная чарніца лячылася раней ў іншых лекараў у Полацку і нават езьдзіла ў Кіяў, і аб яе безнадзейным стане могуць сьведчыць усе гэтыя лекары разам з чарніцамі манастыра і некаторымі жыхарамі Полацку і Сяльца. Сам лекар шчыра пераканаты, што ў «гэтым выпадку маецца дачыненьні із зьявішчам, якое пераходзіць межы людзкога разуменьня».

Магчыма, што ў манастырскай хроніцы былі запісаны іншыя падобныя выпадкі, але сам манастыр сёньня ня існуе і хроніка няма ведама дзе.

Адносна вышэйапісанага цуда заўважвае сябра Віцебскае Навуковае Камісіі Н. Кайгародаў: «Ледва ўсьпела сьв. і прэпадобная Еўфрасіня, Княжна Полацкая у сьвятых сваіх мошчах уступіць пад скляпеньні свае абіцелі, як вачывідкі выявілася цудадзейная сіла яе сьвятых мошчаў над адною з сёстраў манастыра, якая з вераю чакала яе павароту».

А ўвесь беларускі народ чакае ад свае патронкі большага цуда і верыць, што міласэрны Бог ажыцьцявіць гэтыя надзеі дзякуючы заступніцтву сьвятое Еўфрасіні.

# ЗЬМЕСТ:


Уступ 5
Полаччына ў XII в. 6
Жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні-Прадславы 14
Сьв. Еўфрасіня ў бацькаўскім доме 20
Сьв. Еўфрасіня ў манастыры
  Першыя крокі 24
  У Сафійскіх мурох 25
  Манастыр сьв. Спаса 28
  Будова мураванае царквы сьв. Спаса 31
  Ікона Эфэскае Багародзіцы 36
  Крыж Лазара Богшы 38
Паломніцтва ў Сьв. Зямлю 41
Сьмерць сьв. Еўфрасіні 47
Дзейнасьць сьв. Еўфрасіні 49
Культ сьв. Еўфрасіні
  Прызнаньне сьвятасьці 54
  Культ сьв. Еўфрасіні ў Правасл. Царкве 56
  Культ сьв. Еўфрасіні ў Катал. Царкве 58
Рэлігійныя адносіны на Беларусі ў XII в. 60
Патронка Беларусі 65
Мошчы сьв. Еўфрасіні
  Перанясеньне з Ерузаліму 68
  Стараньні перанясеньня ў Полацк 70
  Перанясеньне ў Полацк 71
  Далейшая доля мошчаў 73
Цуды сьв. Еўфрасіні 75

